
„Курантам" – 10 гадоў →4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Людвіка Кардзіс-Вітушка →8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 49 (3004) Год LVIII | Беласток, 08 снежня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Перад з'ездам БГКТ

**— Прыняць план дзеянняў на 2014-2017 гады, пераканаць беларускамоўныя СМІ да сумленнага і адказнага адлюстравання нашых праблем, знайсці залатую сярэдзіну на супрацоўніцтва ўсіх беларускіх арганізацый, — такія высновы былі сфармуляваны ў канцы справаздачна-выбарнай канферэнцыі Павятовага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Адбылася яна 29 лістапада, перад запланаваным на 22 снежня XVII з'ездам найстарэйшай беларускай арганізацыі, якой культурныя мерапрыемствы пад адкрытым небам прыцягваюць нават шматтысячную публіку. Новым старшынёй Беластоцкага аддзела БГКТ зноў быў выбраны доктар Васіль Сегень, лінгвіст, выкладчык Кафедры беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку.**

З-за розных, звычайна выпадковых прычын, шмат асоб з гмін Беластоцкага павета не змагло прыехаць на павятовую канферэнцыю. Згодна са спіскам прыстунасці прыняло ў ёй удзел семнаццаць чалавек, у асноўным з Беластока, двое з Козлік і адна з Заблудава, якія дагэтуль уваходзілі ў статутныя органы павятовай арганізацыі. Яшчэ да адкрыцця канферэнцыі Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП і член павятовых структур БГКТ, сказала «Ніве»:

— Мела быць, у прыватнасці, цэлая група з Бандароў, але не ведаю, чаму не даехалі. БГКТ, фармальна гледзячы, не мае улікавых членаў, базавую дзейнасць вядзе на прыхільніках. Калісь іх было некалькі тысяч і былі штаты, нават у кожным аддзеле ў раёне. У нас нават былі сродкі на камандзіроўкі, якія трэба было абавязкова выкарыстаць, бо трэба было тлумачыцца, чаму мы гэтага не зрабілі.

**Васіль Сегень** пачаў справаздачу з дзейнасці аддзела з абвяшчэння хвіліны маўчання ў гонар памерлых за той час «заслужаных беларускіх дзеячаў аддзела»: Уладзіміра Іванюка — шматгадовага харыста калектыву «Крыніца», Анатоля Навіцкага — члена павятовага аддзела і прэзідыума ГП БГКТ, Георгія Валкавыцкага — шматгадовага рэдактара тыднёвіка «Ніва», Ніны Цыванюк — паэтэсы і кіраўніка хору «Расспяваны Гарадок» і Янкі Вярбіцкага — шматгадовага харыста «Крыніцы», які памёр напярэдадні. Пазней нагадаў аб змене ведамства, якое фінансуе дзейнасць арганізацый нацыянальных меншасцей, у тым ліку БГКТ (было — Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, цяпер — Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі):

— Гэта не палепшыла, аднак, сітуацыі нацыянальных меншасцей. У адносінах да БГКТ міністэрскія датацыі датычаць фінансавання планаваных мерапрыемстваў (хаця не ўсіх), сімвалічнага ўтрымання памяшканняў і аплаты працы бухгалтара. Аддзелы БГКТ не вядуць самастойнай фінансавай дзейнасці, у сувязі з чым іх праца ідзе ў напрамку актыўнага ўдзелу ў культурна-асветных мерапрыемствах планаваных Галоўным праўленнем БГКТ і Таварыствам беларускай культуры.

У дакладзе пералічў ён цэлы шэраг мерапрыемстваў. Звярнуў увагу на вельмі важную ролю, якую адыгрываюць у працы, таксама павятовага аддзела БГКТ, конкурсы, арганізаваныя для беларускіх дзяцей і моладзі. Тут падзякаваў настаўнікам, у тым ліку Луцыі Немяровіч — дырэктарцы беластоцкага дзіцячага садка № 14, Лідзіі Мартынюк з Вясковага дома культуры ў Рыбалах і Іаанне Марко з Непублічнай праваслаўнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Адзначыў і таксама падзякаваў шматлікім калектывам з тэрыторыі павета, «адданых беларускай справе». Паведаміў аб кантактах з Беларуссю. Як аб адной з важных падзей у працы аддзела згадаў 80-гадовы юбілей нядаўна памерлай Ніны Цыванюк, як яе называў — іконы беларускай культуры, якая, дзякуючы намаганням БГКТ і пад яго рэдакцыяй выдала адзіны ў яе жыцці зборнік «З песняй праз жыццё». Падводзячы тэрмін, падзякаваў таксама старшыні ГП БГКТ Яну Сычэўскаму, які, між іншым, удавалася здабываць грошы на мерапрыемствы, якія не атрымалі падтрымкі на міністэрскім узроўні. Адзначыў напрамкі дзейнасці ў павеце на наступны тэрмін, у тым ліку развіццё і ўдасканальванне існуючых відаў дзейнасці (праця бягучых падзей), далейшае і больш эфектыўнае супрацоўніцтва з калектывамі, моладдзю і настаўнікамі ды брацтвамі праваслаўнай моладзі, заахвочванне маладых людзей да стварэння рознага тыпу «гуртоў зацікаўлення, якія ўзбагачалі б праблематыку беларускай культуры», а таксама дапамогу Галоўнаму праўленню БГКТ у «пошуках развязак, якія будуць спрыяць нармалізацыі суадносін са сродкамі масавай інфармацыі, галоўным чынам з беларускамоўнымі СМІ».



У ходзе дыскусіі старшыня канферэнцыі **Ян Зенюк**, дырэктар па справах выкладання праваслаўнай рэлігіі пры Праваслаўнай мітраполіі сказаў:

— У Беластоцкім павеце ёсць спецыфічныя ўмовы, таму што мы непасрэдна звязаныя з Галоўным праўленнем і не маем уласнай фінансавай дзейнасці. Раней было васемнаццаць штатаў і «Лявоніха» была на штатах. У нас быў аўтобус. Цяпер аддзелы не маюць ні грошай, ні рабочых месцаў.

Іншы з удзельнікаў канферэнцыі:

— Нам трэба больш дынамічна ўвайсці ў нашыя дзіцячыя садкі, дзе адчуваецца свойская атмасфера. Дзеці там набіраюць манераў ды адвагі і затым дома спяваюць па-беларуску.

Спявачка **Ала Каменская** з Козлік вярнулася да справы апошняга перапісу, закідваючы несумленнасць у яго праводзенні ў адносінах да пытанняў нацыянальнай ідэнтычнасці («У Козіках не былі праведзены апытанні, а жыхары не маюць доступу да камп'ютара»). Ян Зенюк дадаў:

— Галоўнае праўленне павінна тут прыняць вострую пазіцыю.

**Валянціна Ласкевіч**:

— Улада нікога не прымусіць, каб прызнаўся ў нацыянальнасці. Нашы СМІ маюць ролю тут, а не толькі перад перапісам даваць аргументы, што беларусы ёсць беларусамі.

Працягвала:

— Справа ў тым, каб сродкі масавай інфармацыі не баяліся даваць інфармацыю пра тое, калі ёсць мерапрыемства БГКТ («Ніва» здаўна не атрымлівае ад БГКТ інфармацыі аб арганізаваных ім мерапрыемствах — М. Х.). Я не памятаю, калі па радыё інфармавалі хто спяваў. У беларускіх перадачах у асноўным гэта песні з Беларусі.

Дадала:

— Ёсць беларускія імпрэзы прадстаўлены на некаторых мерапрыемствах як украінскія, як гэта было з «Расспяваным Гарадком».

Адзначыла прытым:

— Не можа быць антаганізмаў паміж народамі.

Настаўніца **Данута Тымашэвіч**:

— Мне балюча, калі ў беларускі дзіцячы сад прыходзяць чыноўнікі, размаўляючыя у СМІ па-беларуску, а ў нас размаўляюць па-польску.

Янка Зенюк:

— Ёсць пытанне ў тым, што рабіць, каб беларускія арганізацыі супрацоўнічалі разам і падтрымлівалі адзін аднаго. Я прапаную яшчэ раз: кангрэс беларускай культуры, каб мы маглі ў некаторых важных справах выказвацца разам. Такіх, як перапіс насельніцтва і выбары. Так, як гэта робяць немцы.

**Старшыня Сычэўскі** аднёсся да некаторых пытанняў, узнятых у ходзе дыскусіі. Прыгадаў, у прыватнасці, што на высокіх узроўнях папярэджваў аб тым, што вынікі перапісу будуць неаб'ектыўнымі. Пры гэтай нагодзе сказаў:

— У Польшчы грамадства нецалерантнае. Прыклады падзей у Беластоку паказваюць, што цярпімасць да нацыянальнай або расавай разнастайнасці з'яўляецца вельмі нізкай. Гэта няпраўда, што мы жывем у супердэмакратычнай дзяржаве, на вуліцы мохам паводзіць сябе як беларусы і гэта не выкліча дыскусіі. Людзі баяцца або саромяцца. Нават людзі, якія ў хаце размаўляюць пасвойму, пад царквой гавораць па-польску (...). У некаторых паяўляецца філасофская арыентацыя, вяртаюцца ў мінулае і сцвярджаюць: чаму мы павінны казаць праўду, калі ў мінулым па-рознаму нас трактавалі, нават забівалі з-за таго, што мы — беларусы.

Працягваў:

— Прымаючы пад увагу этнічныя крытэрыі можна сказаць, што ў Польшчы жыве не менш за 200 тысяч беларусаў. Гэта немалы горад. І што маюць беларусы з пункту гледжання фінансавых умоў? Дзяржава дае БГКТ некалькі соцень тысяч на дзесяткі мерапрыемстваў. Горад Беласток на адно з мерапрыемстваў — «Пазітыўныя вібрацыі» перад палацам Браніцкіх — даў два мільёны. БГКТ ад мэра атрымлівае 15 тысяч злотых на некалькі мерапрыемстваў у год. Пра што мы гаворым?! Як чалавек можа адчуваць сваю годнасць. Бачыць, што з'яўляецца чалавекам другой-трэцяй катэгорыі.

Заклікаючы СМІ да аб'ектыўнасці ў пісанні аб БГКТ, спаслаўся:

— У „Czasopisie" я ніколі не бачыў аб'ектыўнай публікацыі аб нейкім мерапрыемстве, арганізаваным БГКТ. Там заўсёды мусіць знайсціся нейкая прычына, каб аплёўваць нашы калектывы. Юры Хмялеўскі (галоўны рэдактар гэтага штомесячніка, а таксама дырэктар Гарадоцкага цэнтра культуры — М. Х.) настолькі каварны, што, калі запрашае да сябе (у ГЦК — М. Х.) тыя ж калектывы, якія выступаюць у нас, піша, што яго мерапрыемства было лепшае ў свеце.

Абвінавачванні без імёнаў прагучалі ў адрас украінскай меншасці:

— Украінцы наведваюць нашы калектывы і кажуць ім выступаць у якасці ўкраінскіх гуртоў. Ёсць групы, якія выступаюць на нашых мерапрыемствах, а затым на ўкраінскіх, і ў часопісе «Над Бугом і Нарвою» паказваюць іх як украінскія калектывы.

Тут умяшалася ўдзельніца канферэнцыі **Люба Гаўрылюк**:

— Бо ў нашых калектывах, якія там выступаюць, кажуць, што ўкраінцаў пакажуць па тэлебачанні, а нас — не...

Ян Сычэўскі ў заканчэнні выступлення заявіў:

— Праўда ёсць такая: калі не сароміцца сваёй мовы, цябе пачнуць больш шанаваць.

Канферэнцыя абрала новыя статутныя органы Беластоцкага аддзела БГКТ. У іх склад увайшлі таксама асобы, якія, па розных прычынах, не змаглі прысутнічаць асабіста на канферэнцыі, але загадзя далі згоду на кандыдаванне (таксама ў якасці дэлегатаў на з'езд). У склад прэзідыума (па-за старшынёю) увайшлі Валянціна Ласкевіч (намеснік старшыні), Антон Семянковіч (намеснік старшыні), Віталь Бонда (сакратар), Марыюш Харужы, Юрка Астапчук і Ала Каменская (члены прэзідыума).

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Майдан ці Магадан

Украінскія падзеі, якія набываюць ужо сусветны розгалас, надзвычай кранаюць і многіх жыхароў Беларусі. У тым, што зыход новага Майдана наўпрост адаб'ецца на лёсе Беларусі ніхто не сумняваецца — ні аналітыкі з імёнамі, ні простыя карыстальнікі сацыяльных сетак. На маю думку, чым бы не скончылася супрацьстаянне на Украіне, бліжэйшым часам гэта адаб'ецца адмоўна на Беларусі. Калі вышэйшая ўлада нашых паўднёвых суседзяў наважыцца на сілавы разгон пратэстоўцаў і рэпрэсіі супраць апазіцыйных сіл, у Беларусі яшчэ больш узмоцніцца пераслед дэмакратычных актывістаў. Паводле прынцыпу „ў страху вочы па яблыку". Не сумнявайцеся, улада зробіць усё, каб выключыць у Беларусі ў 2015 г. нават падабенства Плошчы-2010. Калі ж украінскі народ даможацца зараз адстаўкі Януковіча, альбо прымусіць яго ўсё ж падпісаць дэкларацыю пра збліжэнне з Еўрасаюзам, гэты ж Еўрасаюз пастараецца загладзіць сваю „віну" перад Масквой цаной Беларусі. Тым больш, уражанне такое, што яны — чыноўнікі Еўрасаюза, якія праўдападобна не маюць выразнай геапалітычнай дактрыны, разумення гістарычнай перспектывы, а кіруюцца выключна штодзённымі эканамічнымі гешэфтамі, самі не ведаюць, што рабіць з Украінай і іншымі постсавецкімі краінамі. З тымі еўрапейскімі паводле гісторыі дзяржавамі, якія ніяк не могуць вырвацца з „братніх" душыцельных нафта-газавых абдымкаў Крамля. Якія ніяк не могуць вырвацца з азіяцкай залежнасці ад таталітарнага мінулага. Захад мог дапамагчы вярнуцца Украіне і Беларусі ў еўрапейскую сям'ю народаў яшчэ ў дзевяностых гадах, але нічога не зрабіў для гэтага. Захад заплюшчыў вочы на антыканстытуцыйны пераварот у Беларусі ў 1995 г., а калі ў 1996 г. прэзідэнту быў падрыхтаваны імпічмент, моўчкі праглынуў наўпроставе ўмяшанне Расіі ў суверэнныя справы Беларусі. І Вялікабрытанія, і ЗША, як міжнародныя юрыдычныя гаранты беларускай незалежнасці, не зрабілі ні кроку. Тым больш Еўрасаюз, які ўжо даўно разглядае Беларусь як выключна тэрыторыю расійскага ўплыву.

Пасля нікчэмнага саміту Усходняга партнёрства ў Вільні, які правёў Еўрасаюз, неўзабаве па інфармацыйных хвалях прыйшла навіна пад агульным рэфрэнам і нават адпаведным загалоўкам „Ангела Меркель думае пра Украіну і Беларусь". Памятаеце, некалі Ленін думаў пра Беларусь. А цяпер сама першая фрау першай дзяржавы ў Еўрасаюзе думае...

Людзі, якія выходзяць сёння на кіеўскі Майдан, кіруюцца не толькі патрыятызмам і памкненнем да справядлівасці, але і звычайным чалавечым інстынктам выжывання. Бо калі сёння ты не выйдзеш на Майдан, заўтра збярэш чамадан і паедзеш у Магадан. Хутчэй усяго і чамадана не дадуць сабраць. Новы рэжым колішняга шапкакрада развіваўся хутка і імкліва, але разгарнуўся яшчэ не да такой ступені, каб знішчыць цэлую дзяржаву, зрабіць яе скрозь таталітарнай і кіруемай паводле аднаго тэлефанавання. У стане ўкраінскай вярхоўнай улады зараз разгубленасць, адбываецца калі не раскол, то напэўна разлад.

Калі пішуцца гэтыя радкі, зусім непрадказальна, чым скончыцца ўкраінскі Майдан. Першыя ж высновы зрабіць можна, у тым ліку і беларусам. Праўдападобна, што лідары ўкраінскай апазіцыі аказаліся зусім не гатовыя да радыкальных змен і ідуць, так бы мовіць, у фарватары народных дзеянняў. Украіна пасля трагічнай гібелі лідара „Руху" Вячаслава Чарнавіла доўгія гады мае праблему сапраўднага агульнанацыянальнага лідара. З сённяшніх прэтэндэнтаў на месца новага прэзідэнта Украіны — ні „заходнік" Алег Цягнібок, ні цэнтрыст, спартовец Віталь Клічко, ні знешне інтэлігентны, але з элементамі фанабэрыі, Арсень Яцанюк на агульнанацыянальнага лідара пакуль не выглядаюць. Зрэшты, зараз прыйшоў той самы час, калі ўсе маюць шанц сябе выявіць. Не забывайма і пра зняволеную Юлію Цімашэнку. Калі яна выйдзе з турмы, то яшчэ можа сказаць сваё важкае слова ў гісторыі.

У Беларусі ж да пазітыўных змен хіба яшчэ далёка. Але Ангела Меркель думае пра ўсіх нас. Так што можна спаць спакойна...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Душа баліць



Як кожны дзень паглядзеў я вячэрнія весткі на выбраных тэлеканалах. Пасля абавязковы душ. Як звычайна — пад направамен гарачай і ледзяной вадой. Тым даўжэй, чым больш дрэнных навін. Гэты рытуал паўстаў у час ваеннага становішча. Тады я змываў з сябе бруд партыйных прапагандыстаў, іх ідэалагічнай пагарды, але і звад салідарніцкай апазіцыі, іх узаемных паклёпаў і праклёнаў. Да сёння нічога не змянілася, калі не лічыць упрыгожванняў і асноўных рэканструктараў нацыянальнай драмы. Тым не менш адчуваю сябе брудным. Толькі што ўмацаваў за ўсе гэтыя гады сваё цела. Не чапляюцца да яго распаўсюджаныя захворванні. Горш з душой. Так, з душой! Гэтым непазначаным, бяздомным у целе чалавека, хоць па-ранейшаму блытаючымся ў галаве, творам. Можа боскіх, а можа толькі чалавечых думак? Толькі што думкі не баляць. Так, значыць, душа! Няхай і так будзе. На гэты раз мне разбалела... Украіна. Там зноў грамадзянскі пратэст. Шматтысячны. Мабыць, мільённы. На кіеўскім Майдане сабраліся маладыя і пажылыя людзі, цэлыя сем'і з маленькімі дзецьмі. Спантанна. Нікім не падбухторваныя. Зноў жа па той прычыне — невыноснай пагардлівасці кіруючага класа ў адносінах да грамадства. Ці ўкраінцы ў змозе ўтрымаць «аранжавы» колер нязгоды? Колькі разоў можна патрабаваць нармальнасці: дзяржавы без неўтаймаванай карупцыі, без смутнай сістэмы ўлады і бізнесу, без нераскрытасці палітычных рашэнняў, якія забіраюць украінскаму народу права на самавызначэнне?

Прафесійна я зацікаўлены ў Беларусі. Без эмоцый аналізую для ўласных патрэб прычыны яе эканамічнага разладу, палітычнай лядашчасці і забруджання цэлай, шматлікай безумоўна нацыі адвольнай, часта хаатычнай і непрадуманай адзінаўладай яе прэзідэнта. Я нічога да гэтага не маю, што ў Беларусі так ёсць як ёсць. Не мой нос і не мая табака. Часам, аднак, нешта баліць. Зноў жа гэтая душа? Баліць пакутліва зацяжна. Кожны раз, калі праз трызненне СМІ прадзіраюцца чалавечыя пакуты. Доўга тады я не выходжу з-пад душа. І ўсё ж я не магу змыць з сябе чалавечай ганьбы: суддзі, які асуджае кагосьці на шмат гадоў цяжкіх лагераў толькі за тое, што той патрабуе за сабой права на крытыку ўлады (як называецца той суддзя?); рэктара ўніверсітэта, які выкідае з вучэльні студэнта, што гучна дамагаецца вяртання нацыянальнага сцяга Беларусі (якое прозвішча гэтага рэктара?); радавога міліцыянта, узброенага ў дубінку, на якога від радавы мінак пакорліва апускае вочы (якое імя і прозвішча гэтага міліцыянта?).

Дэперсаналізацыя ўлады дазваляе кіруючым пазбегнуць грамадскага, суседскага, сямейнага, таварыскага кантролю. Тым не менш, улада гэта не абстрактная сутнасць. Гэта не адзін прэзідэнт ці прэм'ер-міністр. Пад панаццем улады хаваюцца фактычныя, дэлегаваныя для яе ажыццяўлення людзі. Міністры, суддзі, пракуроры, супрацоўнікі паліцыі і службоўцы. Але чым больш яны адчуваюць сябе ананімнымі, тым становяцца менш адказнымі за свае рашэнні. І тым больш іх службовыя паводзіны дэгуманізаваны. Адсюль бяруцца скандальныя прысуды, пачварныя адміністрацыйныя рашэнні, жорсткасць спецслужб. Усе ж адпавядаюць выключна перад сваім начальствам, а тыя — перад яшчэ вышэйшымі ў іерархіі ўлады. А на канцы ёсць той, хто дае ўладзе сваё імя. У Беларусі — Лукашэнка, ва Украіне — Януковіч. Але ніхто ніколі не дакажа, што яны асабіста саджалі, выдваралі, лупілі. Канчаткова яны акажуцца невінаўнымі.

Ва ўсім свеце ўлада гэта простыя людзі, закліканыя да кіравання звычайнымі выбаршчыкамі. Але, часам, выбаршчыкамі ўведзенымі ў зман: салодкімі дэкларацыямі або ўзнёслымі абяцаннямі. Час, аднак, хутка праверыць іх кампетэнтнасць і палітычную сумленнасць. У дэмакратычным ладзе падманутыя выбаршчыкі здольныя ашуканскую ўладу прымусіць да адстаўкі. У іх адпаведныя для гэтага прылады: ціск свабодных і незалежных СМІ, патрабаванні на імя дэлегаваных у парламент дэпутатаў, рэферэндум. У недэмакратычным — грамадства не мае такіх інструментаў. У лепшым выпадку можа выйсці ў акцые адчаю на вуліцы. Часам гэта адзіны спосаб пачаць дыялог з уладай, якая падымае толькі свае рацы, не лічыўшыся з рацыяй большасці народа. Гэтак было ў Польшчы, у Беларусі і цяпер ва Украіне. Толькі што такая ўлада аддае перавагу маналогу, не дыялогу. У выкананні спецпадраздзяленняў. Эх, зноў баліць душа.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Вуліца і кругавая

Аднагалосна і амаль бясспрэчна беластоцкія радныя ў ходзе сесіі 25 лістапада дамовіліся аб названні адной з вуліц на ўскраіне Новага Мяста імем журналіста „Нівы", пісьменніка, перакладчыка, фалькларыста, гісторыка грамадскага дзеяча, этнографа, педагога Мікалая Гайдука, і адной з кругавой на Генаральскім маршруце ў межах мікрараёнаў Ярашоўка і Выгода — архіепіскапа Мірана Хадакоўскага, праваслаўнага ардынарыя Войска Польскага, які загінуў у авіякатастрофе пад Смаленскам. У галасаванні прынялі ўдзел адпаведна 24 і 26 з агульнага ліку 28 радных.

Перад самым пачаткам сесіі, на якой прагучала прапанова назваць адну з вуліц імем Мікалая Гайдука, яго дакладчык Славамір Назарук, віцэ-старшыня Гарадской рады ад Форуму меншасцей Падляшша, што ўваходзіць у склад клуба Грамадзянскай платформы, сказаў «Ніве»: «Два віды доказаў кіравалі нас да падання гэтай заявы. Першым з іх з'яўляецца той, які суправаджаў нас таксама пры прапанаванні назвы кругавой імя Яна Тарасевіча, гэта значыць, прасоўванне і ўшанаванне памяці людзей, якія асабліва заслужаныя для беларускага асяроддзя і праваслаўя. Па-другое, нашай роляй як трох радных ад Форуму меншасцей Падляшша (Славамір Назарук, Адам Мусюк, Сцяпан Нікіцюк — М. Х.), якія прадстаўляюць беларускае і праваслаўнае асяроддзе, з'яўляецца выкарыстанне спрыяльнага моманту для ўвекавечання гэтых годных людзей. Большасць з нас, нават з сярэдняга пакалення і крыху маладзейшыя, успамінае Мікалая Гайдука асабіста, мы хадзілі на сустрэчы з ім. Памёр ён адносна нядаўна, бо ў 1998 годзе».

Вуліца Мікалая Гайдука знаходзіцца на працягу вуліцы Экалагічнай з аднаго боку, а з другога боку гэтая новая вуліца даходзіць да вуліцы Ацтовай. Ад боку вуліцы Ацтовай пакуль ёсць некалькі соцень метраў асфальту. Па ўсёй даўжыні цяпер стаіць там некалькі дамоў.

— Гэта размяшчэнне неблагое. У будучыні гэтая вуліца — прыкладна ў адзін кіламетр — будзе даволі значнай, — кажа Славамір Назарук. — На такое ўвекавечанне не так лёгка знайсці добрае месца ў горадзе. Новых вуліц не так шмат. У самым цэнтры, як правіла, вуліцам прысвойваюцца імёны людзей не толькі вядомых мясцоваму асяроддзю, але ва ўсёй краіне і нават ва ўсім свеце.

Дзякуючы намаганням Форуму меншасцей Падляшша ў апошнія гады ў Беластоку з'явіліся вуліцы Беларуская, прафесара Уладзіміра Занкевіча, бульвары Тамары Саланевіч, кругавая Яна Тарасевіча.

У сваю чаргу, кругавая архіепіскапа Мірана Хадакоўскага размешчана на выхадзе з Беластока ў Супрасль. Аб прысвоенні адной з кругавых на Генеральскім маршруце такой назвы згадаў, падкрэсліваючы гэты маршрут, прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі. Падчас перапынку ў сесіі сказаў нам: «Гэтая ідэя прыйшла мне ў галаву разам з раднымі Форуму меншасцей Падляшша паралельна. Гэтая кругавая знаходзіцца на шляху ў Супрасль, у манастыр, дзе архіепіскап Міран пахаваны і з якім быў ён моцна звязаны».

Спасылаючыся на нададзенне назвы вуліцы імя Мікалая Гайдука сказаў: «Гэта, каб паказаць, што мы не саромімся нашай супольнай гісторыі. Такія жэсты з'яўляюцца прызнаннем шматкультурнасці нашага горада».

Падрабязна абгрунтоўваючы заяву аб прысваенні кругавой імя архіепіскапа Мірана, яго дакладчык радны Адам Мусюк узгадаў патрона: «Ён нахіляўся над кожным. Стараўся накіроўваць людзей на добры шлях. Сотні людзей абавязаны яму дапамогай. Мы хочам паказаць чалавека, які з'яўляецца для нас узорам, дзякуючы якому мы можам быць лепшымі людзьмі (...). Дзейнічаў для экуменізму. Сведчыў, што хрысціянства — адно і вялікае. Для атэістаў можа быць важнай яго маральная ідэя».

Старшыня апазіцыйнага клуба Права і справядлівасці Рафал Рудніцкі, спасылаючыся на гэтую прапанову, запэўніваў: «Гэта добра, што ў прасторы Беластока паявіцца кругавая, якая ўвекавечыць архіепіскапа Мірана. Гэта добра, што памятаем людзей, якія працавалі для дыялогу і талерантнасці».

З журналісцкага доўгу варта адзначыць іншую «падзею» гэтай гарадской сесіі. Радны ад СЛД родам з праваслаўна-беларускага асяроддзя Мікалай Міраневіч даў заяву, абвешчаную старшынёй ГР (хаця сам ён знаходзіцца ў зале) аб прыпыненні сваёй працы ў клубе. Такім чынам клуб Саюза — першапачаткова з чатырох асоб, — пасля ранейшага адыходу раднага Веслава Кабылінскага цяпер мае двух радных і перастаў быць клубам.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**У наступным годзе мае ўзнікнуць ваяводская стратэгія прыгранічнага супрацоўніцтва. Гэта выснова з дыскусіі, прысвечанай прыгранічнаму супрацоўніцтву паасобных падляшскіх гмін і падляшскага рэгіёна ў цэлым. Папярэднічала ёй прэзентацыя «Дыягностыка лакальнага і грамадскага прыгранічнага супрацоўніцтва ў Падляшскім ваяводстве», падрыхтаваная Фондам навукова-даследчай лабараторыі і сацыяльных дзеянняў «SocLab» пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў.**



# Трансгранічна — стратэгічна

Злева: Анджэй Хадкевіч, Яўген Мірановіч, Малгажата Дудзінская, Роберт Тышкевіч, Анатоль Вап, Андрэй Садоўскі

Даследаванне было праведзена ў перыяд з ліпеня па верасень гэтага года ва ўсіх 118 падляшскіх гмінах, на пяці вучэльнях, у дзесяці няўрадавых арганізацыях і дзесяці прадпрыемствах, занятых у супрацоўніцтве з Усходам. Прааналізавана каля трохсот рознага тыпу гмінных стратэгічных дакументаў і праведзена шэраг абследаванняў. Прынята пад увагу супрацоўніцтва з Беларуссю, Літвой, Украінай і Калінінградскай вобласцю.

— Прыкметным з'яўляецца дысананс паміж тым, што ёсць у стратэгіі органаў мясцовага самакіравання, і рэальнасцю. Дамінуе культурнае і турыстычнае супрацоўніцтва. На далейшым плане — эканамічнае і інфраструктурнае, датычнае рынку працы. Дакументы большасці самаўрадаў не ўлічваюць замежнай перспектывы партнёраў, — рэзюмавала даследаванне на пасяджэнні ў Беластоку 27 лістапада Кацярына Штоп-Руткоўская з «SocLab».

Як вынікае з апытання, на Падляшшы толькі 49 гмін праводзяць трансгранічнае супрацоўніцтва, большасць з Літвой (35) і Беларуссю (31). У прынцыпе, гміны супрацоўнічаюць з адной дзяржавай. Высока ступень супрацоўніцтва ацанілі ў 55 адсотках (з Беларусю — 53). На думку крыху больш за палову супрацоўнічаючых гмін (у дачыненні да Беларусі так лічыць 69%), яно будзе расці на працягу бліжэйшых трох гадоў. Большасць гмін хоча прыгранічнага супрацоўніцтва з усходнімі партнёрамі ў галіне культуры — 76%, у эканамічнай сферы — толькі 22%. Асноўнай мэтай такога супрацоўніцтва аказваецца магчымасць атрымаць еўрасаюзныя сродкі і ахвота іміджавага функцыянавання на міжнароднай арэне. З чатырох краін-партнёраў з-за ўсходняй мяжы Польшчы найбольш праблем дастаўляе супрацоўніцтва з Беларуссю, па віне беларускага боку. У дакладзе «SocLab» можна прачытаць, што цяжкасці з атрыманнем дазволу на супрацоўніцтва з польскай арганізацыяй ляжаць на беларускім баку, і вельмі часта, хоць і не наўпрост, беларускія партнёры паказваюць, што яна не вітаецца, крытычна ацэньваецца беларускімі ўладамі. Заяўлена: «Некаторыя рэспандэнты адзначалі таксама, што на беларускім баку часам працуюць з арганізацыямі, якія не маюць афіцыйнага статусу (незарэгістраванымі). Акрамя таго, атрыманне згоды на сумесны праект часам з'яўляецца перашкодай. Даволі працяглы працэс чакання, каб атрымаць грант, напрыклад, ад Міністэрства замежных спраў спрычыняецца да таго, што вельмі мала часу застаецца для рэалізацыі сумеснага польска-беларускага праекта. На рэгістрацыю ўжо тады няма часу». Сярод бар'ераў для трансгранічнага супрацоўніцтва з Беларуссю пералічаны таксама фінансавыя пытанні. Цытата з даклада: «Перадаванне датацыі беларускаму боку — часам гэта не можа быць зроблена афіцыйна, значыць пераводам на рахунак». Часам нават немагчыма таксама набыццё беларускім бокам уласнага ўкладу ў сумесны праект (10%), яны пакутуюць ад буйных фінансавых дэфіцытаў (напрыклад, каманды часта не могуць дазволіць сабе пакрыць выдаткі на праезд). Яшчэ адной перашкодай, часта згаданай рэспандэнтамі, з'яўляецца неабходнасць атрымання віз для напарнікаў з Беларусі. Даволі крытычна ацэненай былі праца консульстваў і візавая электронная рэгістрацыя, у тым ліку факт выдачы віз на працяг занадта кароткага перыяду, што мяшае ў больш інтэнсіўных кантактах у ходзе падрыхтоўкі і працягласці праектаў. Была таксама адзначана валакіта ў выдачы неабходных рашэнняў, асабліва ў дачыненні да няўрадавых арганізацый. Акрамя таго, самымі вялікімі бар'ерамі з'яўляюцца тут: складаныя працэдуры атрымання грантаў (з абодвух бакоў ), нявызначанасць або адсутнасць правілаў ці супярэчлівасць ды іх нестабільнасць (у асноўным на беларускім баку), слабая сістэма абмену інфармацыяй (з абодвух бакоў), нізкая актыўнасць устаноў (таксама ў абедзвюх краінах), слабасць прапускной здольнасці пагранпераходаў, у шырокім сэнсе гэтага паняцця, таксама на польскім баку слабое развіццё транспартнай інфраструктуры. Цікавае, што ў сацыяльным вымярэнні адзначана: «З польскага боку — адсутнасць гатоўнасці да супрацоўніцтва жыхароў, з беларускага боку — страх перад прытокам замежнага капіталу і негатыўны гістарычны вопыт; абодва бакі характарызуюцца дрэнным веданнем партнёра і адрозненняў у ментальнасці».

Даследаванне паказвае на тое, што аж 90% гмін, якія ўдзельнічаюць у супрацоўніцтве з Беларуссю, робяць гэта ў абшары культуры і мясцовай спадчыны, але гэтае супрацоўніцтва толькі ўмерана ўплывае на стан паасобных гмін. У цяперашні час на Падляшшы распрацавана адна агульная трансгранічная стратэгія — польска-літоўская ў гміне Пуньск.

Згадваючы пра магчымую ваяводскую трансгранічную стратэгію Кацярына Штоп- Руткоўская адзначыла, што яна павінна быць створана не з-за стала, але ў асноўным у выніку кансультацый з грамадскасцю і — што вельмі важна — з улікам спецыфікі замежных партнёраў. Дадала:

— Яна павінна мець карані ў рэаліях і канкрэтным бюджэце.

У ходзе дыскусіі, арганізаванай Фондам «Суседзі без межаў», віцэ-старшыня парламенцкай камісіі замежных спраў і старшыня парламенцкай групы па Беларусі дэпутат Роберт Тышкевіч падкрэсліў, спасылаючыся на магчымае развіццё стратэгіі прыгранічнага супрацоўніцтва (інакш названай у час дыскусіі стратэгіяй самаўрадавай дыпламатыі Падляшскага ваяводства):

— Такі дакумент неабходны. Мы знаходзімся на добрым шляху да яго падрыхтоўкі. Каб не пыліўся ён на паліцах, толькі быў практычным падручнікам для гмін, няўрадавых арганізацый, вучэльняў, прадпрыемстваў і ўсіх, хто быў бы зацікаўлены ў міжнародным супрацоўніцтве. Было б карысна, каб падляшскаму сейміку быў ён прадстаўлены ў наступным годзе. Польскае МЗС зацікаўленае ў будаванні самаўрадавага вымярэння міжнароднага супрацоўніцтва.

Малгажата Дудзінская, дырэктарка Асацыяцыі «Еўрарэгіён Нёман» падкрэсліла:

— Рэгуляванне прыгранічнага супрацоўніцтва ў рэгіёне — неабходнае. Не хапае нам яго, для прыкладу, у перамовах над новымі дакументамі з літоўскім бокам. У той час калі прадпрыемствы могуць не ўбачыць прыбытку ад такога трансгранічнага супрацоўніцтва, дык гміны бачаць яго праз набыццё еўрасаюзных сродкаў для яго. Найлягчэй супрацоўнічаць у культуры, таму што там найменш палітыкі. У іншых галінах трэба быць вельмі асцярожным, асабліва калі справа даходзіць да Беларусі. Стратэгія неабходная, але і грошы для гэтага супрацоўніцтва. Любое супрацоўніцтва можа быць выгадным, калі выгады ўзаемныя. Стратэгія павінна ўлічваць меркаванне іншага боку. Стратэгія не будзе добрай, калі немагчыма атрымаць верагодныя статыстычныя даныя гэтых краін.

Польскі генеральны консул у Гродне Анджэй Хадкевіч адзначыў, што польскія органы мясцовага самакіравання не ведаюць, якую міжнародную палітыку мелі яны весці, а іх дзейнасць у гэтай галіне ў асноўным абмяжоўваецца да атрымання сродкаў з ЕС і задавальнення культурных патрэб:

— Гэты дакумент на ваяводскім узроўні патрэбны, каб вызначыць, якія ёсць больш шырокія інтарэсы.

Адзначыў:

— Сур'ёзнай праблемай з'яўляецца слабы абмен ідэямі, якія служылі б развіццю эканомікі па абодвух баках, асабліва датычных развіцця інфраструктуры. Складанасць праблемы заключаецца ў прасоўванні польскай эканомікі ў Беларусі.

Сацыёлаг Універсітэта ў Беластоку праф. Андрэй Садоўскі сказаў:

— Добра, што МЗС спрыяе дэцэнтралізацыі знешняй палітыкі. Тым не менш, мы не гатовыя да такога аўтаномнага супрацоўніцтва. Трэба нам новага персаналу для ажыццяўлення знешняй палітыкі дзяржавы.

Гміны не ведаюць, як паводзіць сябе ў адносінах да палітыкі якую вядзе Міністэрства замежных спраў.

Пытаўся:

— Дзе аўтаномныя міжкультурныя кантакты паміж Польшчай і Беларуссю? Культура гэта фарміраванне транскультуры на памежжы. Палітыка ўсё яшчэ звязвае. Можа быць, яна павінна быць тут, на мяжы, больш гнуткай. Відаць велізарны перарост запісаў самаўрадавых стратэгій да рэальных дзеянняў. У нас няма доступу да інфармацыі, або ён вельмі абмежаваны ў тамашніх краінах.

Прафесар Яўген Мірановіч з Інстытута гісторыі і палітычных навук Кафедры міжнароднай палітыкі ва Універсітэце ў Беластоку:

— Тэрмін «дыпламатыя і стратэгія» да гэтага часу асацыяваўся з іншымі ўстановамі, чым самаўрад. Правядзенне эфектыўнага міжнароднага супрацоўніцтва звязана з неабходнасцю выяўлення ўсіх фактараў на другім баку. У Беларусі няма такога паняцця, як самаўрад у нашым разуменні. Там патрабуецца для прыняцця рашэння адабрэнне на больш высокім узроўні, найчасцей цэнтральным. Сама ідэя такога супрацоўніцтва на самым нізкім узроўні з'яўляецца правільнай.

Ён таксама адзначыў, што цяжкасці ў супрацоўніцтве з Беларуссю таксама на ўзроўні мясцовага самакіравання з-за — як гэта вызначана ўрадавай беларускай прапагандай — ангажаванасці Польшчы ў дэмакратычным крыжовым паходзе:

— Услед за беларускай апазіцыяй выказваем меркаванні аб Беларусі, мала зразумелыя для беларускага электарату. Трэба апісваць рэальнасць такой, якой яна ёсць, а затым адаптаваць яе да стратэгіі.

Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства:

— Калі трансмежная палітыка развівалася, заўсёды ў яе ўвойдзе палітыка. Можна выкарыстоўваць культурнае супрацоўніцтва для эканамічнага супрацоўніцтва, нават з такім складаным партнёрам як Беларусь.

У ходзе абмеркавання дэпутат Тышкевіч адзначыў:

— Трэба даць мясцовым уладам больш гнуткасці, таму што для палітыкі гэта вельмі зручна. У польскай усходняй палітыцы неабходная «ігра на многіх фартэпіяна». Справа ў тым, каб найбольш Еўропы было на ўсход ад нас. Гэта не можа абазначаць дзвюх знешніх палітык у Польшчы. Міністэрства замежных спраў павінна мець права звярнуцца ў мясцовае самакіраванне са сваімі рэкамендацыямі або папярэджаннямі.

Пётр Божка, віцэ-староста Бельскага павета:

— Бліжэйшае мне паняцце дыпламатыі як прадстаўлянне інтарэсаў дзяржавы дзяржаўнымі ўстановамі, якой з'яўляецца Міністэрства замежных спраў. Я не ведаю, якія мэты хоча рэалізаваць МЗС у сувязі з Усходам. У мяне такое ўражанне, што МЗС хоча іх вызначыць на ўзроўні мясцовых органаў улады і перанесці іх да сябе. Вельмі цяжка будзе запісаць такія мэты ў стратэгіі прыгранічнага супрацоўніцтва ваяводства, якія сыходзіліся б з інтарэсамі за ўсходняй мяжой. Праблема ў якасці партнёра. Мы баімся за якасць рэалізацыі сумесных праектаў. Разлічваем на падтрымку ў абароне ад рызыкі.

Консул Хадкевіч спаслаўся на праблемы, пра якія ўспамінаў дэпутат Божка, з электроннай сістэмай выдачы віз у польскіх консульствах у Беларусі:

— Наша штаб-кватэра [МЗС — М. Х.] не жадае адысці ад электроннай сістэмы толькі ў Беларусі, каб не фармаваліся гіганцкія чэргі. Мы хочам захаваць гэтую сістэму. Яе сервер знаходзіцца ў Варшаве, але сістэмай кіруе беларускі апаратар, і вось тут адказ на пытанне аб хакераў, якія яе парушаюць.

Як прыгадаў консул, асноўнай прычынай польска-беларускіх турбот на мяжы і візавых праблем з'яўляецца адсутнасць згоды беларускіх улад павялічыць колькасць польскіх консулаў. Ён паведаміў, што ў мінулым годзе польскія консульствы ў Беларусі выдалі 330 тысяч віз, у гэтым годзе, верагодна, іх лік дасягне 350 тысяч і на дадзены момант пытанне аб выдачы большай колькасці немагчымае. Дадаў:

— Беларусь не хоча кантактаў з Польшчай, разам з любымі гандлёвымі адносінамі. Палітыка абцяжарвае гэтыя адносіны, але ў корані гэтай палітыкі вельмі часта стаяць эканамічныя прычыны. Беларускія ўлады не хочуць, каб іх грамадзяне куплялі ў Польшчы, і польскія прадукты

працяг ☞11

## Яўгена Мірановіча ўзнагародзілі Сярэбраным крыжам заслугі

Беларускі гісторык і грамадскі дзеяч з Беластока Яўген Мірановіч атрымаў Сярэбраны крыж заслугі — узнагароду прэзідэнта Польшчы. Падчас урачыстасці дзяржаўныя адзнакі і медалі Камісіі нацыянальнай адукацыі атрымалі 52 працаўнікі Універсітэта ў Беластоку.

Навуковыя зацікаўленні прафесара Яўгена Мірановіча — гэта перадусім навейшая гісторыя Беларусі:

— Большасць гадоў я займаўся гісторыяй Беларусі, асабліва 20-ым стагоддзем, цяпер займаюся больш замежнай палітыкай постсавецкіх краін. Напісаў нават кніжку пра замежную палітыку Беларусі і пра замежную палітыку Украіны. У рамках свабоднага часу займаюся гісторыяй Беларусі. Пішу таксама кніжку пра Другую сусветную вайну, пра нямецкую акупацыю, пра штодзённае жыццё пад нямецкай акупацыяй.

Яўген Мірановіч з 1997 года працуе ва Універсітэце ў Беластоку. Быў кіраўніком Кафедры беларускай культуры гэтай навучальнай установы. Цяпер працуе на пасадзе прафесара Інстытута гісторыі Беластоцкага ўніверсітэта. Яўген Мірановіч з'яўляецца таксама рэдактарам „Беларускага гістарычнага зборніка". У мінулым быў таксама галоўным рэдактарам тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва".

**Лукаш Леанюк,**
**Беларускае Радыё Рацыя**




## Надзея Артымовіч атрымала ўзнагароду бургамістра Бельска Падляшскага

За значны ўнёсак у галіне мастацкай творчасці — штогадовая ўзнагарода бургамістра Бельска Падляшскага трапіла сёння ў рукі вядомай беларускай паэткі Надзеі Артымовіч.

— Я моцна ўзрушана. Адбылося нешта вельмі важнае для мяне ў Бельскім доме культуры ў прысутнасці віцэ-бургамістра Бельска, дырэктара Дома культуры пані Малгажаты Ярузельскай, супрацоўнікаў гарадской управы. Бельск — мой горад. Я бяльшчанка. Гэта Бельск збудаваў мой духовы і эстэтычны план. Я ўзрушана. Дзякую!

Штогадовую ўзнагароду беларускай паэтцы прызначыў бургамістр Яўген Беразовец, які раптоўна памёр 25 лістапада. Менавіта з-за жалобы ўрачыстасць уганаравання Надзеі Артымовіч была адтэрмінаваная.

Жыццё і творчасць Надзеі Артымовіч шчыльна звязаны з Бельскам-Падляшскім.

**Валянціна Лаеўская,**
**Беларускае Радыё Рацыя**




# «Курантам» — 10 гадоў

Беларускі мужчынскі калектыў «Куранты», што дзейнічае пры Бельскім доме культуры, 23 лістапада адсвяткаваў 10-годдзе сваёй дзейнасці. Мужчыны з «Курантаў» на высокім мастацкім узроўні запрэзентавалі перад шматлікай публікай свой лепшы рэпертуар — творы з мінуўшчыны, апрацаваныя фальклорныя песні і аўтарскія творы на словы нашага паэта Віктара Шведа і свайго спевака Яна Грыгарука ды з музыкай мастацкага кіраўніка калектыву Аліны Негярэвіч. На падмену бельскім спевакам выступілі гурты «Калінка» і «Гай» з Беластока, якія вядзе Марыюш Харужы. З юбілеем «Курантаў» віншавалі шматлікія госці і бяльшчане, якім даспадобы рэпертуар гэтага яшчэ адносна маладога па ўзросце, але сталага па мастацкім вопыце калектыву.

Юбілейны канцэрт бельскія мужчыны распачалі песняй «Куранты» на словы Яна Грыгарука і музыку Аліны Негярэвіч. Вядучая Барбара Вашчэнка папрасіла хвілінай цішыні ўшанаваць памяць памерлага члена калектыву Анатоля Максімюка.

— Паколькі крыху пішу вершы па-беларуску, папрасілі мяне скласці на роднай мове словы прывітальнага твора і я гэта зрабіў, — заявіў мне Ян Грыгарук, які практычна ад пачатку спявае ў калектыве, за выключэннем перапынкаў з-за жалобы. — Некаторыя мае вершы друкаваліся ў «Ніве», але гэта было даўней. Зараз у мяне ёсць каля 20 новых беларускіх вершаў і жо некалькі месяцаў збіраюся пад'ехаць у «Ніву», каб перадаць іх на разгляд, даведацца ці падыходзяць яны да друку.

«Куранты» выступалі на Беласточчыне, спявалі ў іншых рэгіёнах Польшчы, выязджалі ў Беларусь. Удала прэзентаваліся на З'ездзе беларусаў свету ў Мінску, Славянскім базары ў Віцебску, Міжнародным фестывалі музыкі «Вянок сяброўства» ў Бабруйску, у час Сустрэч «Гродна—Беласток», у Гродне, спявалі падчас кулінарнага фестывалю «Мотальскія прысмакі» ў Моталі, выступалі ў Светлагорску ў рамках супрацоўніцтва гэтага горада з Бельскам-Падляшскім.

— У Беларусь мы едзем як на Радзіму. У Мінску было цудоўна, у Бабруйску нас вельмі цёпла прымалі, у Светлагорску не хацелі адпусціць са сцэны. Удалымі былі таксама паездкі ў іншыя месцы ў Беларусі. У фестывалі «Беларуская песня» мы выступілі восем разоў (адзін год не спявалі). Сем разоў займалі ў сваёй катэгорыі першае, а адзін раз — другое месца, — заявіў ініцыятар заснавання калектыву Павел Лемеш, які раней шмат гадоў выступаў у «Васілёчках». — Мы рады, што ў нас вопытны і здольны музычны кіраўнік Аліна Негярэвіч, якая падбірае нам цікавы рэпертуар і апрацоўвае яго на трычатыры мужчынскія галасы.

Акампанемент спевакам на баяне састаўляе Мікола Мяжэнны, музычны кіраўнік ляўкоўскіх «Цаглінак», а на акардэоне іграе Юры Шарко. У мінулым акампанемент на акардэоне састаўлялі Мікола Сідарук, Пётр Федарук і Рыгор Таранта.

— Сёння мы заспяваем толькі адзін твор на словы Віктара Шведа — «Мая маленькая айчына», на завяршэнне нашага юбілейнага выступлення. Аднак у нашым рэпертуары ёсць яшчэ іншыя песні на словы гэтага паэта — «Валянціна», «Суніцы», ці «Выйдзе мілая вясной», да якіх я склала музыку. Паколькі мы беларускі калектыў, найбольш выконваем беларускіх песень. Але ў нашым рэпертуары маем па некалькі твораў на расійскай, украінскай і польскай мовах. Мы хацелі выступаць з іншым рэпертуарам, чым фальклорныя калектывы, і таму я рыхтую музыку да аўтарскіх твораў, а даўнія эстрадныя ці фальклорныя песні апрацоўваю на мужчынскія галасы, — расказала Аліна Негярэвіч, якая працуе з калектывам з 3 лістапада 2003 года.

Калектыў «Куранты» быў заснаваны ў пачатку 2003 года, а яго першымі дырыжорамі былі Міхал Жаўрыд з Гродна і Аліна Кос.

— «Куранты» паўсталі па маёй ініцыятыве, але стварылі мы калектыў супольна. У маёй хаце на першы дзень Хрышчэння Гасподняга, 19 студзеня 2003 года, спаткаліся Юры Сцяпанаў, Вячаслаў Муха, Юры Антаненка, Анатоль Максімюк і я, і сталі абмяркоўваць справы заснавання мужчынскага калектыву, — сказаў мне Павел Лемеш і дабавіў, што зараз у калектыве выступае 11 мужчын, а раней было і 16 асоб. — У маладых хлопцаў сталі нараджацца дзеці і яны спынялі свае выступы, але даходзілі новыя спевакі.

Удзельнікі калектыву палічылі, што на працягу сваёй дзейнасці «Куранты» выступілі больш за 200 разоў.

— Я дзевяты год спяваю. Убачыў, як «Куранты» ў Мельніку выступалі, і так мне гэты калектыў спадабаўся, што рашыўся стаць яго членам. Зараз не шкадуюся, бо атмасфера тут добрая і памагаем сабе, хаця, так як і ў іншых гуртах, бывала і ў нас па-рознаму, — сказаў Яўген Чыжэўскі.

Назва «Куранты» была прынята калектывам у 2004 годзе.

— Мы думалі, якую прыняць назву і хацелі, каб не была яна паўсюднай, але адметнай і сур'ёзнай. На слова *куранты* я нактнуўся ў энцыклапедыі і яно вельмі мне спадабалася. У нас, у Бельску-Падляшскім, ёсць ратуша з гадзіннікамі, бой якіх суправаджаецца музыкай. Мы рашыліся дзейнічаць стройна, як гэтыя гадзіннікі, рабіць прыемным час людзям. Таму наш калектыў прыняў назву «Куранты», — патлумачыў Павел Лемеш. — Бачым перспектывы для «Курантаў». Мы адкрыты на новых мужчын, якія хацелі б папоўніць састаў нашага калектыву.

У 2008 годзе, на пяцігоддзе дзейнасці, «Куранты» выдалі кампакт-дыск «Чорны воран». Рыхтуюцца да выдання чарговыя дыскі.

— На асаблівую ўвагу заслугоўвае факт, што «Куранты» — мужчынскі калектыў, якіх няма ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне. Мужчыны тут галасістыя, здольныя і спяваюць на высокім узроўні, — аценіў сваіх сяброў акампаніятар Мікола Мяжэнны.

Сярэбраныя крыжы заслугі, прысвоеныя прэзідэнтам РП Браніславам Камароўскім, атрымалі ў час мерапрыемства мастацкі кіраўнік Аліна Негярэвіч (атрымала таксама ўзнагароду бельскага бургамістра) і яе муж Андрэй Негярэвіч. Юрыю Антаненку, Яну Грыгаруку, Паўлу Лемешу, Вячаславу Мусе і Юрыю Сцяпанаву ўручылі Ганаровыя дыпломы Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны. Віншавальныя дыпломы Бельскага дома культуры атрымалі астатнія ўдзельнікі «Курантаў», а дырэктар БДК Малгажата Бальярузельская, гаспадар мерапрыемства, пахваліла спевакоў за іх удалую дзейнасць. Сярод гасцей, якія ўдастоілі мерапрыемства, былі консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Аляксандр Сувораў, віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Валянцін Карыцкі, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, войт Бельскай гміны Раіса Раецкая і віцэ-бургамістр Бельска Ян Радкевіч. У гэты дзень мужчыны з «Курантаў» і іх кіраўнік Аліна Негярэвіч атрымлівалі ўзнагароды, кветкі, віншаванні і пажаданні. Калі падмену «Курантам» давалі гурты «Гай» і «Калінка», удзельнікі бельскага калектыву пераапраналіся ў іншыя касцюмы.

— Куплю адных касцюмаў прафінансавалі ўлады горада Бельска-Падляшскага, а другія прыдбалі мы за сродкі з Рэспублікі Беларусь, — прыгадала кіраўнік калектыву Аліна Негярэвіч.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Вячоркі бабулі Вольгі

Захапляюць сваёй прыгожасцю сакольскія памежныя ландшафты. На маляўнічых узгорках, далінах, у лясным зацішку цешыць вока старэнькая, драўляная забудова невялічких, найчасцей шляхецкіх вёсак, ці шматлікіх тут хутароў. Хаця хаткі дзе-нідзе яшчэ стаяць, але жыць у іх ужо няма каму. У Кнышэвічы-Калёнію найпрасцей дабрацца кіруючыся з шашы Саколка — Крынкі налева, у вузкую, польную дарогу, потым трэба павярнуць направа у яшчэ больш першабытную сцяжынку. Пры яе канцы пацiхеньку праводзіць свае дні васьмідзесяцігадовая спадарыня Вольга. Сама яна родам з непадалёкай вёскі Кнышэвічы, з мураванкі Чаховічаў. На хутар прыйшла за мужам у 1956 годзе. Зараз пасля вяселля пасялілася ў старую, драўляную хатку, потым удалося ёй неяк зляпіць новую мураванку. Перапоўненыя мноствам хатняе-гаспадарскай працы і турбот будні адцягвалі яе ад думак пра раднiю ці сябровак. Хутка мiналі працавітыя дзесяціголдзі, надышла ўсё яшчэ зняволеная турботамі старасць.

— От, вясною, то і вясною, але як зіма прыйдзе, — распавядае спадарыня Вольга. — Я папрасіла гэтага Кшыся, то ён мне штотыдзень, у кожную сераду, тавар прывозіць — хлеб, малако, смятану... Была малодшая то і ў Самагруд у царкву пехатою зайшла, і ў родную вёску. Цяпер ужо не дам рады. А і раднявапа павымірала. Брат памёр малады і сястра адна, другая. Я самая старшая і трэба яшчэ мучыцца, сядзець.

Тое, што засталося спадарыні Вользе, гэта ўспаміны вясёлых гадоў моладасці, восеньска-зімовых працавітых вечароў, запраўленых любімымі спевамі ці жартамі.

— Скромна тады жылося, — узгадвае бабуля. — На ежу ўвагі амаль не звярталі. Звычайна варылі раз у тыдзень, у нядзелю, пасля царквы. У Пiлiпаўку заядаліся капустай з варанай у шкарлупінах бульбай. А так то яшчэ боб і фасолю парылі. Наша мама, пакойніца, усё такія хрусты смажыла ў алею, без яек, бо хто іх тады бачыў... Гэта цяпер ужо не хочацца ўглядацца на яйкі... Калісь Валя, што за Хамічковым Міхасём, на вячорках частавала нас варанай, добра засквaранай картофляй і кіслым малаком. Помню, заўсёды казала: „Ешце, бо ў вас у хаце таго няма”. Бо і праўда, не было. У Пiлiпаўку дзень кароткі, усё ноч і ноч. Завiдна да самых Каляд усё яшчэ лён даглядалі: то церлі, то трапалі, то часалі. Потым наступала шэрая гадзіна, калі можна было крыху паляжаць, адпачыць. Недзе каля шостай-сёмай вечара дзяўчаты зноў збіраліся на працу, але ўжо ў сваёй кампаніі. Ішлі туды дзе жыло іх найбольш і дзе панавала спрыяльная атмасфера. Найчасцей спатыкаліся ў Маляшкоў. Бацька іх быў добры, не сварыўся. Там усё зборышча было. То да Адаля ішлі, у якога таксама былі дзве дзяўчаты — Тоня і Марыся. У вячорках удзельнічалі толькі незамужнія дзеўкі ва ўсякім узросце. Сядалі на кухні, кругом газавай лямпы, тады ж электрыкі не было. Усе разам працавалі, вучыліся адна ад другой. Я трынаццаць лет мела, то ўжо свэдра для дзеда зрабіла. Усякія работы прыносілі, то пер'е дралі, то кручком і на прутках вязалі, вышывалі. Воўну пралі, каб на рынку ў Саколцы прадаць. Як зыдуцца хлопцы, як дзьмухнуць на тое пер'е, ажно куралём ляцела. Кавалераў на вячоркі ніхто не запрашаў. Яны самі, як тыя сабакі, пад акном стаялі. Тады нас, равеснікаў, збіралася сямнаццаць. Крыху папрацуем, тады пагуляем. Найчасцей гралі ў фанты. Гэта значыць, як хтосьці не мог адгадаць загадку, мусіў даць фант. Потым трэба было выкупляць тое ўсё, між іншым, спевам або танцам. Ой, спявалі тады, і я любіла спяваць. Быў такі Мікалай Аляхноўскі, добры голас меў. Як зацягнем на цэлую вёску, аж усё задрыжыць...



Іван Каўнаўзаў мандалінку з сабою прыносіў. Ён іграе, а мы спяваем. Усялякія песні ведалі. Божа, ужэ і пазабывалася! „Шумеў камыш, дзяроўя гнулісь...”, „За акном чаромуха калышэцца...”.

*На гарэ, там цэрква,*
*дзе шлюб будзем браці,*
*Там табе я буду ўсю праўду казаці.*
*А як нам звяжуць руку з рукою,*
*Тэды буду мілы тваёю.*

На вячорках распавядалі таксама ўсялякія гісторыі — пра тое, як калісь жылося, то пра страхі якiесь.

Гэта ў Адаля ў хаці было. Аднойчы прыйшла Зінка, што з Ганнаю на канцы вёскі жыла. Велька баба была. Як устала, як заглянула праз верхнюю шыбу з цёмнага панадворка, то я дахаты баялася ісці. Калісь лякаліся ўсяго, цяпер ніхто нічога не баіцца. То бабай-Ягой, то ваўком, то мерцвяком страшылі. Усе расказвалі як Жамойда з ваўком біўся. Ён на самым канцы жыў. Штосьці засвяцілася на балоце, ён падышоў, а воўк на яго. Той воўк так яго скачаў... Як ён яшчэ і так вырабіўся... От, баялася я прайсці праз вуліцу побач хаты, у якой стаяў мярцвяк. Аж пакуль баба Стэфка, што была калісь у Аляхноўскіх, падказала мне: „Ніколі не ўглядайся на мерцвяка, а бяры яго за ногу”. Я так і зрабіла. Адтуль стала не баяцца. З вячоркаў вярталіся як каму пападзе, і а дзевятай, дзесятай і ў адзінаццаць. Хто меў кавалера, то і з ім папастаяў пад хатай... Калісь добра было, вясялей. Цяпер па хатах замыкаюцца і тэлевізар аглядаюць, пустата.

Бабуля Вольга прызнаецца што праца па сёння з'яўляецца яе адзіным паратункам у цяжкіх хвілінах. Яшчэ шэсць гадоў таму, перад хваробай, ткала надта ўдалыя ходнікі і капы, вязала кручком аздобную пасцель. У доўгія вечары на восені жыцця амаль зусім не расстаецца яна з пруткамі, з-пад якіх выходзяць мяшкі поўныя шкарпэтак і гольфаў з уласнаручна выгадаванай і апрацаванай воўны. Сваякі толькі гавораць: „А каму гэта патрэбна”. „Вот раблю, можа каму прыйдзецца”, — адказвае ім тады добрая, працавітая жанчына.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



## Выстаўка з гісторыяй

Увечары 22 лістапада г.г. у Гміннай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адкрылі фотавыстаўку пад загалоўкам „45 гадоў керамічнай фабрыцы ў Старым Ляўкове” аўтарства Юрыя Равінскага.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел, між іншым, войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, старшыня Гміннай управы Мечыслаў Грыц, сакратар Гміннай установы Міхал Бароўскі, старшыня суполкі „Будаўнічая кераміка Ляўкова” Раман Зуйко, дырэктарка Гміннага асяродка культуры Галена-Марыёля Рэент, радныя Нараўчанскай гміны Юрый Равінскі і Лявон Хлябіч ды солтысы Нараўкі Валянціна Пацэвіч і Новага Ляўкова Ян Целушэцкі, а таксама дырэктарка Комплексу школ у Нараўцы Марыя Леўша.

Пра пабудову фабрыкі і яе далейшае існаванне ў Старым Ляўкове на працягу 45 гадоў цікава расказаў прысутным радны Ю. Равінскі (ён ажно да пераходу на пенсію працаваў на фабрыцы намеснікам дырэктара). Пасля ён пазнаёміў з фотавыстаўкай, якую складаюць 83 чорна-белыя гістарычныя фатаграфіі (усе яны вялікага фармату). Расказаў пра жыхароў Ляўкова і ваколіцы, якія будавалі, а пасля шмат гадоў працавалі на фабрыцы. Аказваецца, што многія з іх ужо не жывуць.

Пра значэнне ляўкоўскай керамічнай фабрыкі ў маштабе гміны і Падляшскага ваяводства распавёў войт Нараўчанскай гміны М. Павільч. Ён зычыў, каб яна бесперабойна існавала сто гадоў, бо да паўстагоддзя ёй ужо блізка. Каб ізноў зварухнула перш-наперш будаўніцтва жыллёвых кватэр для маладых сем'яў ды прамысловых аб'ектаў.

Выстаўка — багатая здымкамі, вельмі цікавая. Можна будзе агледзець яе амаль да канца гэтага года (а гэта ўсяго праз месяц) у гадзінах працы галерэі. Дык запрашаем усіх: школьную і працуючую моладзь ды старэйшых людзей.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Сустрэча з суседзямі

Другога лістапада я наладзіла сустрэчу на хутары Зубава са сваімі суседзямі. Гэта меў быць працяг рэпартажу „Хутар у маёй паэзіі і ўспамінах суседзяў”, але не прыбыў журналіст Радыё Рацыя і з рэпартажу нічога не атрымалася. Аднак мае суседзі прыйшлі і мы правялі разам некалькі гадзін. Якраз была гэта памінальная субота, а 4 лістапада ў суседняй вёсцы святкавалася свята Іконы Казанскай Божай Маці, і ў гэты дзень мая светлай памяці мама Аляксандра адзначала пры сваім жыцці дзень народзінаў. На сустрэчу прыйшлі Жорж Данілюк, Лідзія Апалінская з сынам Янкам і нявесткай Яўгеніяй ды Яўген Федарук. Я прыгатовіла абед, ды і госці з сабой нешта прынеслі. Пасля чарговай чаркі наладзілася гутарка, успаміналі жыхароў хутара і вёскі, даўнейшае жыццё і памерлых удалальнікаў маёй хаты. Мой брат Сцяпан загінуў трагічна на матацыкле ў 1987 г., тата Міхаіл памёр у 1998 г., а мама Аляксандра ў 2012 годзе. Мой родны дом цяпер стаіць закрыты, але мае блізкія пакінулі сваю добразычлівасць і пашану да кожнага чалавека, і такімі іх запамяталі, і такімі ўзгадвалі суседзі. Час прайшоў вельмі хутка і пасля традыцыйнага „аглаблёвага” мужчыны нават заспявалі песню. Круціліся мне слёзы ў вачах — жаль, што не было з намі маіх блізкіх, але ўсё ж такі вельмі прыемна было правесці дзень. Мая хатка проста ажыла. А хто яго ведае — можа ў сваёй светлай вечнасці пра гэта ведалі мае блізкія. Думаю, што гэта не апошняя такая сустрэча. Усім прапаную, каб памяталі адзін пра аднаго, пакуль чалавек будзе бачыць след чалавека.

**Жэня МАРТЫНЮК**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Экскурсіі і песні пра звяркоў



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Каб з'есці яду са смакам, трэба прагаладацца. Беларускія канцэрты ці спектаклі зрэдку паказваюць у Бабіках ці Шудзялаве. Таму сустрэча з мастацкім словам ці беларускай песняй — гэта незабыўная падзея.

З падобным захапленнем вучні са школы ў Бабіках і Шудзялаве апавядалі нам пра беларускі мюзікл „Звярынкі з глыбінкі". Паглядзець спектакль яны прыехалі ў Беласток, да сяброў з Пачатковай школы № 4. Па ініцыятыве бацькоў пры гэтай школе працуе беларускі клуб „Склеп з культурай". У памяшканні знаходзіцца тэатральная зала і беларуская хатка. Месцы бурляць жыццём і мастацкімі пастаноўкамі. Беластоцкія школьнікі запрашаюць да сябе вучняў з іншых школ, каб паглядзелі іх выступленні.

— Усё мне падабалася ў спектаклі, — кажа Марцін Бароўскі, — кожны „звярок" мне падабаўся. А ўжо найбольш спадабалася Зося!

Мова пра ролю „Жука Жукевіча" ў выкананні Зосі Конюх.

Дзеці з Бабікаў успрынялі „Жука" як свайго земляка. Вёска Жукі знаходзіцца непадалёк Сакολкі, блізка Шындзелі, дзе жыў кампазітар Ян Тарасевіч.

Назвы вёсак на Беласточчыне часта паўтараюцца. Калі паглядзім на карту, далучаную да верша „Жук з Жукоў", тады апынемся ў другім кутку бацькаўшчыны — у наваколлі Кляшчэль...

Размову пра цудоўныя выступленні беластоцкіх сяброў і звяркоў дзеці прадаўжалі ў „Ніве". Тут чакаў іх новы сюрпрыз: сустрэча з Мірай Лукшай, аўтаркай кніжкі, на аснове якой пастаўлены мюзікл (аўтар музыкі — Анна Бабік, рэжысёр пастаноўкі — Аліна Ваўранюк). Дзеці даведаліся як нараджалася кніжка. Пачалося ўсё ад „зубрыка". Якраз у „Зорцы" мы друкавалі расказы з Белавежскай пушчы. Апошнім героем быў маленькі зубр, які прыйшоў на свет на беларускім баку лесу. Паколькі нам не хацелася парываць аповедаў пра звяркоў, усе пачалі намаўляць паэтку Міру Лукшу, каб прадаўжала тэму. І пачалося. Кніжка пісалася каля двух гадоў. Прапановы для вершаў часта падказвалі чытачы, які хацелі заявіць свету пра прызабытыя назвы хутароў. Так менавіта нарадзіўся „Певень з Петухоўкі" — з хутара каля вёскі Пасынкі, які афіцыйна называецца Калёнія Трашчоткі.

Ніхто раней не падумаў пра адзін феномен: як многа нашых вёсак, мястэчак і ўрочышчаў узяло сваю назву ад жывёл і звяроў! А ўсё гэта — невыпадкова. На тэрыторыі ваяводства шмат лясоў і тры вялікія пушчы. Вось, нашыя сябры з Бабікаў і Шудзялава дабіраліся ў Беласток праз Кнышынскую пушчу. Нашы сябры паабяцалі выглядаць у паваротнай дарозе звяркоў іназываць іх па-беларуску.

ЗОРКА

## Умееш чытаць снежную кнігу?!

Казачна выглядае зімовы лес. Ён, як і ўсё навокал, прыбраўся ў бялюткі, іскрысты ўбор. Цішыня... Здаецца, усё замірае. А на самой справе жыццё прыроды ні на хвіліку не спыняецца. Шмат можа расказаць пра яго „снежная кніга". Для тых, хто ўмее яе чытаць, адкрыюцца таямніцы лесу. Прыглядзьцеся... Бачыце? Снег усеяны мноствам розных знакаў. Гэта распісаліся ў „снежнай кнізе" жыхары лесу. Хто яны? Напішыце пра іх у „Зорку"! Аўтараў допісаў чакаюць культавыя тамы „Жывінак з глыбінкі" з аўтографам аўтаркі.

ЗОРКА

## Увага, конкурс!!!

### Загадкі з роднай хаткі (№ 49-13)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 29 снежня г.г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**

*Заўсёды, летам і зімой,*
*мае іголачкі са мной.*
*Галінак у мяне багата.*
*Я сустракаю з вамі свята.*
*(е...)*

**2.**

*Усюды мне адкрыты шлях:*
*і на дварах, і на палях.*
*Сляды чужыя замятаю,*
*ды і свае не пакідаю.*
*(м.......)*

Адказ на загадкі № 47-13: кот, гусь, певень. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Магдалена Стоцкая, Наталля Васько з Нараўкі, Даміника Календа з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

## Час

Гадзіннік ходзіць,
Час уцякае,
Хутка бяжыць,
Але яго ніхто не глядзіць,
Бо жыццё хуценька бяжыць!

Шыман Каспяровіч,
*Юшкаў Груд, Школа ў Міхалове*

## Вершы Віктара Шведа

### Чаму не любіш Міхася?

— Чаму не любіш Міхася,
Чаму ён раптам такі дрэнны?
— Дык вось у тым прычына ўся,
Заўсёды ён храпе страшэнна.

— Адкуль жа ведаеш аб тым,
Ты не спаў жа з ім ніколі?
— Дык мы ўжо цэлы год сядзім
У адной парце ў нашай школе.

### Крыкун

— Адкуль у нас крыклівы сын? —
Міхаська запытаў мамусю
— З цёплых прынёс яго краін
Працавіты надта бусел.

— Пазайздросціць толькі ім,
Што крыкуна ўжо пазбыліся.
Тут мучымся цяпер мы з ім,
Там ужо такая ціша!

# Кожны можа штосьці зрабіць!

Не пытай, што можа зрабіць для цябе Айчына, — маўляў адзін амерыканскі прэзідэнт, — спытай, што ты сам можаш зрабіць для Айчыны!

Вось пад такім лозунгам праходзіла сустрэча бельскіх ліцэістаў і журналістаў „Нівы" 13 лістапада г.г. Сустрэчу павёў галоўны рэдактар Яўген Вапа, які ў мінулым працаваў настаўнікам белліцэя. Ён звярнуў увагу на патэнцыял, закладзены ў беларускай мове. Ці патрапім пакарыстацца духоўным капіталам, падараваным нам продкамі? На жаль, часта ў нас практычныя (і вельмі часта абыякавыя) адносіны да роднай мовы. Гэтая абыякавасць не дапамагае ў самаразвіцці і здзяйсненні асабістых мараў. У атмасферы абыякавасці, непрыкметна, з дня ў дзень, замірае наша духоўная спадчына. Таму ў час гутаркі мы заахвочвалі нашых сяброў, каб рэалізавалі свае жыццёвыя мары разам з беларускай мовай. Прыкладам тут можа паслужыць прафесія журналіста.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Дзякуючы сучаснай тэхніцы, кожны сам можа заснаваць блог у інтэрнэце. Напэўна варта запісваць жывыя гутаркі вясковых сваякоў. Гэта будзе не толькі сямейная асабістая памятка. Можа, у будучыні, калі канчаткова страцім мову, будзе нейкі дакумент пра нашае існаванне.

Здаецца, сустрэча нешта кранула ў маладых сэрцах, бо ў час развітання адзін хлапец сказаў:

— Пакуль жыве мова, датуль жыве народ!

**ЗОРКА**



Гімназісты з Міхалова

## Айчына

Залацісты шуміць ліст,
А ты ведаеш, што наперад трэба ісці,
І не пакінеш думак сваіх,
Пішаш дзённік аб справах важных.

І пры жыцці падтрымлівае яна,
Да канца жыцця твая жана,
Заўсёды радасная і ўрадлівая,
Твая беларуская зямля.

**Клаўдзія Сікорская,**
*Школа ў Міхалове*

## Запусты або Андрэеўская забава

Андрэеўская забава для гімназістаў і вучняў шостага класа Комплексу школ у Нараўцы адбылася 22 лістапада г.г.

Старшыня Школьнай рады зрабіў усё, каб гульня атрымалася разнастайнай. Ён прыдумаў розныя гульні — танец з шарыкам, гарачыя крэслы ці танцы ў парах. Мае сябры мелі нагоду танчыць пры найбольшых гітах беларускай музыкі! Усе танцавалі, спявалі і добра гулялі. Мы нават не прыкмецілі як праляцеў той час... Мы хацелі б больш такіх забаваў і каб яны працягваліся „аж да раніцы"!

**Наталля Васько**
**II клас Гімназіі ў Нараўцы**

## Завяршыўся экалагічны конкурс

Фінал чацвёртага выпуску Экалагічнага конкурсу ведаў адбыўся 21 лістапада 2013 года ў Белавежы. Яго праводзяць кожны год, каб паказаць маладым людзям багатую біяразнароднасць.

На конкурс у Белавежу прыехала 50 вучняў з многіх школ. Гімназію ў Нараўцы прадстаўлялі дзве вучаніцы — Эва Кунцэвіч з трэцяга класа і другакласніца Наталля Васько. Мы апынуліся ў першай дваццатцы найлепшых вучняў.

Усе вучні атрымалі дыпломы і кніжкі, а настаўнікі — віншавальныя лісты і дапаможнікі для працы на ўроках. Увесь фінал быў перфектыўна запланаваны і сарганізаваны. Мы вярнуліся ў школу з багажом новых ведаў і пачуццём добра праведзенага часу.

***Наталля Васько**, II клас*
*Гімназіі ў Нараўцы.*

**Ад Рэдакцыі:** Віншуем з поспехам і цешымся разам з Вамі!

## Польска-беларуская крыжаванка № 49

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 45:

Дата, лістапад, ад, стан, хрэн, корак, ара, кулак, сак, Пі, кампанія. Біскуп, столік, тара, ганак, дах, на, адрас, эра, аднак.

Узнагароды, механічныя алоўкі, выйгралі **Магда Пташынская, Катажына Мучко, Барташ Ламашкевіч, Вікторыя Барэчка** з Нараўкі, **Наталля Ніканюк** з Арэшкава, **Дамініка Альшэўская, Патрык Мартынюк** з Бельска-Падляшскага, **Міхал Паніквіцкі, Караліна Шчасновіч** з Бабікаў, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!



# Людвіка і «Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча»

**Людвіку Кардзіс, родам з Астравеччыны, жыхарку Вільні, прадставіў мне больш за чвэрць стагоддзя таму Канстанцін Пятровіч, старазаконны, які валодаў усімі мовамі віленчукоў, друкар, карпатлівы збіральнік тутэйшых старажытнасцей: «Яна вам пакажа Вільню!» Паўтарыў ён словы Яўстафія Тышкевіча: «Абавязак кожнага адукаванага і ўлюбёнага ў свой край чалавека — старацца растлумачыць усё, што падпала пад сумненне і складае матэрыял для гісторыі. Здагадвацца, шукаць, а адкрытае перадаваць людзям — значыць падаваць руку тым, хто прысвяціў жыццё сваё і здароўе для грамадскага». І цяпер яна — адна з тых, хто ратуе віленскія памяткі старажытнасці, якія хоча змясціць пад адным дахам — у музеі.**



Змітрок Бядуля казаў пра гэта месца так: «...Святое гэта месца, бо адсюль разыходзяцца праменi навукі і асветы па ўсім нашым краі...». Максім Багдановіч (у 1911 годзе): «Гэта ёсць фундамент нашага Адраджэння. Гэта і за 1000 гадоў будзе сведчыць аб нас». Гэта пра Беларускі музей Івана Луцкевіча.

Якраз пра гэты музей і пра беларускую Вільню пагаварылі мы ў АББАўскім «Склепе з культурай» пры Пачатковай школе № 14 у Беластоку 29 лістапада — з Людвікай Кардзіс-Вітушкавай, дырэктаркай Віленскага беларускага музея Івана Луцкевіча. У рамках сустрэчы паказаны быў таксама фільм «Людвіка» Міколы Ваўранюка. Пачынаецца ён у кватэры Людвікі ў Вільні, якая пацiху сама ператвараецца ў музей, бо тут збіраюцца экспанаты, якія маглі б стаць асновай Беларускага музея ў Вільні.

— Традыцыя беларускай музейнай справы ў Вільні бярэ пачатак ад 1856 года, калі Яўстафій Тышкевіч адкрыў музей старажытнасцей на аснове музейных экспанатаў з Лагойска, прывезеных у Вільню на выставу ў 1845 годзе. Пазней ён стаў музеем віленскага ўніверсітэта. Гэта спадчына, якая належыць і беларусам, і літоўцам, і палякам, — кажа Людвіка. — Ад часу стварэння беларускага музея Іванам Луцкевічам пачынаецца новая старонка беларускай музейнай справы. Але варта лічыць пачаткам стварэння беларускага музея не 1921 год, а 1911 год: вуліца Завальная, 7 (сёння гэта вуліца Pylimo), рэдакцыя газеты «Наша ніва», выдавецтва «Наша хата», беларуская кнігарня. Менавіта там Іван Луцкевіч размясціў свае экспанаты. З таго моманту можна гаварыць пра стварэнне беларускага музея ў Вільні.

Музей Івана Луцкевіча быў зачынены ў 1945 годзе, унікальная калекцыя разышлася па іншых музеях. Справу музея падтрымалі прыватныя асобы — Пётра Сергіевіч, Зоська Верас, Адольф Клімовіч, Язэп і Надзея Шнаркевічы ды іншыя, пасля іх — віленскія беларусы Зоя Каўшанка, Янка Багдановіч, Аляксей Анішчык, Лявон Луцкевіч, Лявон Кароль ды іншыя.

Сёння справу віленскага музея пераняла Грамадская арганізацыя «Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча». Ідэя аднавіць Беларускі музей у Вільні з'явілася ў 1990-я гады. Адным з ініцыятараў гэтай справы быў Сяржук Вітушка — муж Людвікі Кардзіс, лідар моладзевага нацыянальнага руху 1980-х гадоў. Пачаўся збор экспанатаў, якія і цяпер, пасля смерці ў 2012 годзе Сержука Вітушкі, захоўваюцца ў кватэры Людвікі Кардзіс і іншых беларусаў у Вільні. Арганізацыя існуе з 2001 года.

— Мы не маем фінансавання і памяшкання, але мы маем на мэце збіраць, захоўваць, вывучаць экспанаваць прадметы, якія распавядаюць пра гісторыю і культуру беларусаў Вільні, — кажа Людвіка Кардзіс.

У фільме Міколы Ваўранюка Людвіка ходзіць з гледачамі па Вільні, паказваючы месцы, якія маюць значэнне для беларусаў. Заходзіць да захавальнікаў помнікаў, сардэчных сямейных памятак, якія таксама неўзабаве адыдуць, як Зоя Каўшанка, якая рабіла вышыўку ў рамцы з гербам Пагоня падчас вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі.

— Безумоўна, калі б было сталае фінансаванне і памяшканне, былі б навуковыя кадры — гэта рабілася б больш якасна, з шырэйшым размахам. А пакуль робім, што можам. Літоўскія законы дазваляюць фізічным асобам ахвяраваць 2 адсоткі, ад сплачанага падатку, на грамадскія арганізацыі. Мы ўдзячны нашым ахвярадаўцам, сабраныя грошы мы выдаткуем на набыццё беларускіх экспанатаў. Самае галоўнае ў нашай дзейнасці — сустрэчы з людзьмі сталага веку. Гэта людзі з вельмі цікавымі і часта драматычнымі лёсамі, якія здаўна займаліся актыўнай беларускай грамадскай дзейнасцю. Запісваем іх успаміны, збіраем матэрыяльныя памяткі. Часцей за ўсё гэта кнігі, фотаздымкі, рукапісныя дакументы. Часам гэта творы ці нейкія прадметы быту. Такіх паступленняў у музей магло б быць намнога больш, калі б было сталае памяшканне, спецыяльнае для іх захоўвання. Экспанаваць гэтыя прадметы можна і ў іншых памяшканнях, музеях, архівах, на часовых выставах. Задача стаіць у гуртаванні навуковых сіл і матэрыяльных сродкаў і тады музей у Вільні стане рэальнасцю.

Першыя кадры фільма Міколы Ваўранюка ўскалыхнулі не толькі Людвіку Кардзіс-Вітушкаву. Мы там пабачылі яе мужа, грамадска-палітычнага дзеяча Сержука Вітушку, лідара моладзевага руху, кіраўніка мінскай «Талакі», гісторыка і педагога, аўтара казак для дарослых і дзяцей. У 1986 годзе прыйшоў ён у моладзевы клуб «Талака». З 1987 года, калі яго абралі старшынёй таварыства, «Талака» стала адной з самых уплывовых арганізацый беларускай дэмакратычнай супольнасці. З 1991 года жыў ён у Вільні, дзе працаваў настаўнікам гісторыі ў віленскай беларускай школе імя Францішка Скарыны. Быў арганізатарам і першым дырэктарам аднаўленага Віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Выдаваў газету «Vilnia i kraj» (1993). Актыўна супрацоўнічаў з радыёстанцыяй «Балтыйскія хвалі» і літоўскім дзяржаўным тэлебачаннем. Як публіцыст, друкаваўся ў газетах «Наша ніва» і «Рунь». Быў ініцыятарам і арганізатарам беларускіх набажэнстваў у віленскай царкве святога Мікалая па вуліцы Вялікай (Дзіджэю). Хварэў дыябетам. Страціўшы зрок, не спыніў актыўнай дзейнасці, у прыватнасці, арганізоўваў «сляпыя экскурсіі» для беларусаў па старажытнай сталіцы ВКЛ, пісаў казкі, п'есы-батлейкі, вершы і беларускія тэксты на мелодыі вядомых песень. У 2010 годзе ў Мінску выйшла яго першая кніга «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі!», крыху пазней паўтораная ў аўдыёварыянце (казкі прачыталі вядомыя ў Беларусі людзі). Такія людзі ажыўляюць старажытную беларускую Вільню.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Супрасльская канферэнцыя

У двухдзённай міжнароднай канферэнцыі ў Супраслі прымала ўдзел 20 даследчыкаў гісторыі мясцовага манастыра. Навукоўцы з Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы разважалі аб развіцці і дзейнасці Супрасльскай лаўры ад XVI да XX стагоддзя. У канферэнцыі прысутнічалі, між іншым, святары Грэка-каталіцкай царквы і гісторыкі з Беларусі. На працягу стагоддзяў Супрасльскі манастыр неаднойчы мяняў канфесійную прыналежнасць, таму да сёння некаторыя гістарычныя факты нявысветленыя або разглядаюцца рознабакова. Аднак канферэнцыя, якая прайшла 16-17 лістапада ў Супраслі, аб'яднала тых навукоўцаў, якіх погляды на дзейнасць манастыра маюць аднолькавы або зблізаны да сябе характар.

— У канферэнцыі ўдзел маглі прымаць усе. Была аб'ява на сайце нашага горада, — адзначыў бурмістр Супрасля Радаслаў Дабравольскі. — Тыя, якія хацелі, якія маюць адвагу і ахвоту да супольнай дыскусіі, прыйшлі. Няма тых, якія не зацікаўленыя дыялогам.

Сам загаловак сёлетняй сустрэчы „Дзейнасць Супрасльскага абацтва ў XVI-XX стст." выклікаў абурэнне некаторых прадстаўнікоў праваслаўя.

— Як можна гаварыць аб гісторыі манастыра ад XVI ст., называючы яго абацтвам? — абураецца працаўнік манастыра, іканапісец Янка Грыгарук. — Да XVII стагоддзя, да берасцейскай уніі ва ўсіх крыніцах яго называюць манастыром. А гэтая назва не выступае ні ва ўніяцкай тэрміналогіі, ні ў каталіцкай.

Як адзначыў настаяцель Свята-Уладзімірскай царквы ў Гародні айцец Андрэй Крот, канферэнцыя не была наладжана дзеля палемікі, але дзеля таго, каб указаць гістарычную праўду аб Супрасльскім манастыры.

— Для нас вельмі важна прадстаўляць гісторыю кляштара, гісторыю Супрасля, гісторыю гэтага абацтва, — сказаў уніяцкі святар. — Таксама вельмі важна прадставіць погляд, які маюць нашы даследчыкі не дзеля нейкай палемічнай мэты, але дзеля таго, каб проста адкрыць гістарычную праўду і ўсе яе бакі, і каб больш поўна бачыць мінулае нашай краіны, нашай царквы і гэтага месца.

Айцец Андрэй Крот звяртаў увагу на тое, што на працягу стагоддзяў, як і зараз, Грэка-каталіцкая царква падтрымлівае беларускую мову і культуру.

Супрасльскі манастыр пасля Кіева-Пячэрскай лаўры быў другім з найбуйнейшых рэлігійных цэнтраў у часы Вялікага Княства Літоўскага. На пачатку XVI ст. заснаваў яго праваслаўны навагрудскі ваявода і вялікі маршалак Аляксандр Хадкевіч. Па яго ініцыятыве кляштар быў пабудаваны ў Гарадку, пазней быў пранесены ва ўрочышча Сухі Груд.

— Як можна дадумацца, блізкасць замка Хадкевічаў не спрыяла малітве, — кажа гісторык Вячаслаў Швед. — Вядома, шум, пітво, турніры... І тут, паводле легенды, на раку Супрасль пусцілі ікону з часцінкай крыжа. Месца багністае і можа не вельмі зручнае, дзе прыбілася да берагу ікона, было новым для манастыра. І з гэтага таксама пачаткі бярэ сённяшні Супрасль.

У XVI ст., дзякуючы энергіі і руплівасці тагачаснага архімандрыта, манастыру быў прысвоены статус лаўры. Гэты перыяд ахарактарызаваў магістр Аляксандр Сямашка з Кракава.

Вячаслаў Швед, вядомы гарадзенскі гісторык, у час канферэнцыі выступіў з дакладам пра дзейнасць Супрасльскага брацтва ў 1893-1896 гадах. Яго даклад абапіраўся на дакументы, знойдзеныя ў гарадзенскім архіве. Паводле іх, брацтва ў той час займалася ўмацоўваннем рэлігійнай маральнасці, вяло дабрачынную дзейнасць, а таксама русіфікавала мясцовае насельніцтва.

— Гэта быў ужо канец XIX ст. Праваслаўе было дзяржаўнай рэлігіяй. У тым рэгіёне таксама. Задачай брацтва было весці руска-праваслаўную адукацыю, уводзіць расійскую культуру ў жыццё праваслаўя.

У канферэнцыі прынялі ўдзел шматлікія прадстаўнікі інтэлігенцыі і навукоўцы, якіх даклады накіраваныя былі на розныя аспекты дзейнасці Супрасльскага манастыра. У сваіх выступленнях указвалі яны як дзейнасць манастыра паўплывала на праваслаўную абшчыну ў Польшчы, на рэгіён і краіну ў багаслоўскім, гістарычным, культурным, рукапісным, музыказнаўчым і праваым планах.

Як падкрэсліла прафесар Святлана Марозава з Мінска, манастыр заўсёды спалучаў Усход з Захадам. Супрасль быў горадам на сутыкненні культур і веравызнанняў. Канферэнцыя „Дзейнасць Супрасльскага абацтва ў XVI-XX стст." напэўна не аб'яднала на супольных дзбатах даследчыкаў розных нацыянальных і рэлігійных традыцый.

Арганізатарам канферэнцыі было таварыства „Collegium Suprasliense", а таксама Цэнтр культуры і рэкрэацыі ў Супраслі.

**Уршуля ШУБЗДА**

# Была граніца



Фрагмент двара Аляксандры Пілсудскай

**Шаша з Лап у напрамку Браньска, перасякаючы Вышкаўскую гміну двума шырокімі лукамі, мінае вёску Вулька-Пяткоўская, якая ў гэтым напрамку астаецца амаль поўнасцю з левага боку. Супрацьлеглы бок, ахінуты паркавымі дрэвамі, займае свайго роду прысёлак згаданай вёскі — Каменны Двор. Але па сутнасці гэта менавіта Вулька-Пяткоўская стала прысёлкам Каменнага Двара...**

Менавіта ў мясцовасці, што зараз называецца Каменным Дваром, двор існаваў ужо ў XVI стагоддзі і з ходам часу мяняў сваіх уласнікаў. У палове XIX стагоддзя быў там пабудаваны драўляны новы дворскі будынак. У канцы таго ж стагоддзя чарговыя ўласнікі абгарадзілі рэзідэнцыю каменным мурам з чаго і прынялася цяперашняя назва мясцовасці — Каменны Двор. Аднак з ходам часу маёмасць стала занепадаць і ў міжваенны перыяд трапіла яна на аўкцыён.

Новай уласніцай маёнтка стала Аляксандра Пілсудская, удава па маршалку Юзафе Пілсудскім. Яна рашыла пабудаваць новую сядзібу, мураваную, што скора, ужо ў 1937 годзе, стала рэальнасцю. Бывала яна ў ёй толькі ў летні час, разам з дочкамі, прыязджаючы з Варшавы поездам у Лапы, а адтуль у Каменны Двор фаэтонам. Грошы на куплю гэтай рэзідэнцыі, як падаюць афіцыйныя звесткі, атрымала яна ў падарунку ад войска...

Пані маршалкава была жанчынай надта энергічнай і яна ў Каменным Дворы вяла даволі актыўнае жыццё, што дазваляла жыхарам Вулькі-Пяткоўскай атрымаць працу і заробак. Зладзіла яна там прадшколле і кола вясковых гаспадынь, арганізуючы ім навучанне розных умеласцей. Каменны Двор пакінула яна назаўсёды ў жніўні 1939 года, пасля ўрачыстых дажынак, у ходзе якіх атрымала яна пышны вянок з каласоў і польных кветак. Выехала яна ў Варшаву, а ўжо ў ходзе вайны ў Вільню, адтуль у Рыгу, а далей у Швецыю і Вялікабрытанію.

Цікава адно, ці той згаданы „падарунак ад войска" не быў адмысловым штуршком пані маршалкавай у своеасаблівую ссылку. Аляксандра Пілсудская была жанчынай вельмі энергічнай і цалкам магчыма, што „варшаўка" пабойвалася яе не надта выгаднага ўмяшальніцтва ў розныя тамашнія справы. Дарэчы, яшчэ пры жыцці Маршалка шмат якія лідары польскага вызвольнага руху намагаліся скінуць яго з ганаровых высот і заняць ягонае там месца; гэтакія „танцы" відаць жа і цяпер... Аднак у замежжы Маршалак аставаўся непахісным аўтарытэтам — пасля ягонай смерці 12 мая 1935 года дзяржаўная жалоба была абвешчана ў Францыі, Германіі і ў Савецкім Саюзе; Маршалак быў жа адзіным военачальнікам, які вырашальна перамог „непераможную" савецкую армію. Баяліся яго не толькі пры жыцці...

Апрача параллеляў згаданай сітуацыі з польскімі сучаснымі рэаліямі можна меркаваць і пра паралелі з тагачаснымі рэаліямі больш шырокага дыяпазону. А маю тут на ўвазе тое, што адбывалася ў Маскве. Менавіта падобныя захады праводзіліся ў адносінах да ўдавы па Леніне — Надзеі Крупскай, якая хацела захаваць свой уплыў на ход маскоўскіх спраў. Сталін, яшчэ пры жыцці Леніна, прыгразіў ёй, што Партыя можа падшукаць Леніну іншую жонку. А пасля смерці Леніна яна была прымушана штодзённа наведваць маўзалей, дзе пакоіўся яе муж і сядзець пры яго саркафагу па гадзіне. Пазней яна іграла вядучую ролю ў антырэлігійных акцыях савецкіх вярхоў. Гэты апошні факт цікавы тым, што Ленін і Крупская павянчаліся ў царкве ў 1898 годзе... А Сталін у сваёй маладосці быў жа клірыкам...

Жанчына, пазбаўленая ранейшага ўплыву на ход дзяржаўных спраў, можа быць вельмі нявыгаднай новым правіцелям, а паказала гэта ўдава па Мао Цзэ-дуне, Цзян Цін, якая раней, пры жыцці мужа была душой славутай гэтак званай „культурнай рэвалюцыі", а падчас суда над ёй даводзіла, што яна прадаўжае справы „Вялікага правадыра". Ды і цяпер нават найбольш аўтарытарныя дзяржаўныя лідары пабойваюцца сваіх жонак, адпраўляючы іх у грамадскую ссылку, як гэта зрабілі Аляксандр Рыгоравіч ці Уладзімір Уладзіміравіч...

Вось таму цалкам магчыма, што Каменны Двор сёння выглядае так, як была ў прынцыпе задумала яго Аляксандра Пілсудская. Ейная рэзідэнцыя ў пасляваенны час была сядзібай пэгеэра, а зараз знаходзіцца ў прыватнай уласнасці. Раней-раней была яна часткай фальварка Пяткова, адкуль пэўна і пайшла назва суседняй з маёнткам вёскі.

Пяткова знаходзіцца ў адлегласці каля трох кіламетраў ад Вулькі-Пяткоўскай і Каменнага Двара. *Слоўнік Каралеўства Польскага* так пісаў пра гэтую мясцовасць: „**Wieś i folwark, pow. mazowiecki, gm. Poświętne, par. Pietkowo. Posiada kościół par. kat. drewniany, szkołę początkową, dom schronienia dla biednych, browar i 4256 morgów obszaru. W 1827 r. było tu 25 domów, 198 mieszkańców. Kościół i parafię fundowali w 1522 r. małżonkowie Pietkowscy, dziedzice. Obecny drewniany z 1784 r.**"



Касцёл у Пасвентным

Ёсць і іншая згадка: „**Pietkowo, folwark, pow. bielski gub. grodzieńskiej, gm. Rajsk, 18 wiorst od Bielska, hrabiostwa Starzyńskich, 660 dziesięcin**". Яна, верагодна, адносіцца да той мясцовасці, якая зараз ахоплівае і Вульку-Пяткоўскую, і Каменны Двор...

А паміж імі і самім Пятковам працякае рачулка Ліза, здавалася б, мала важная. *Слоўнік*: „**Liza, rzeka w pow. mazowieckim, ma początek pod wsią Hodyszewem, płynie w kierunku wschodnio-północnym, stanowiąc na całej długości granicę od cesarstwa, wpada naprzeciwko Suraża z lewego brzegu do Narwi. Długość 17 wiorst**". Колішняя гранічная рака паміж Расійскай Імперыяй і Каралеўствам Польскім сёння з'яўляецца таксама гранічнай рачулкай — паміж Бельскім і суседнімі паветамі, паміж парафіямі Тапчэва і Пяткова...

Партал Ломжынскай дыяцэзіі пра Пяткова: „**Parafia pw. św. Anny została erygowana w 1522 r. z fundacji Mikołaja i Baltazara Pietkowskich. Ostatni z kościołów drewnianych wybudowany w 1762 r. przez Leona Kuczyńskiego, podkomorzego Ziemi Drohickiej, podówczas dziedzica dóbr pietkowskich spłonął w 1930 r. Obecny kościół murowany pw. św. Anny zbudowano w 1933 r. staraniem ks. prob. Antoniego Puchalskiego**". Інтэрнэтны даведнік пра вёску падае іншую дату — 1936 год.

Пры скрыжаванні дарог знаходзіцца асаблівы будынак, ранейшы шпіхлер, пабудаваны там у 1890 годзе, які ў міжчасе быў гэесаўскім складам, а ў апошні час змяшчаў дыскатэку. Побач яго стаіць капліца-стэла, пра якую няма ў сеціве істотных інфармацый. Запытаў я пра яе мясцовую пажылую жанчыну, а яна адказала, што стаіць тая капліца з незапамятнага часу. Калі яна была яшчэ маладой дзяўчынай, неўзабаве пасля вайны, то ўзлазіла на яе верх дзеля прыбірання, а з таго часу ніхто аб'ектам не займаўся.

Заглянуў я і ў чарговую мясцовасць, Пасвентнэ. Праходзячы каля тамашніх могілак бачыў на намагільніках толькі мазавецкія прозвішчы, ніводнага „тутэйшага". Партал Ломжынскай дыяцэзіі: „**Parafia pw. Przemienienia Pańskiego została erygowana 16.03.1808 r. Od 1486 r. przy zbudowanym kościele w Poświejnem zamieszkał ksiądz bez uprawnień proboszcza, ponieważ Poświejne było filią parafii w Surażu. Po pokoju tylżyckim Suraż należał do Cesarstwa Rosyjskiego, a Poświejne znalazło się w granicach Królestwa Polskiego; wtedy utworzono w Poświętnem samodzielną parafię. W historii parafii istniało kilka kościołów drewnianych. Budowę obecnego kościoła murowanego w stylu neogotyckim pw. Przemienienia Pańskiego zakończono w 1906 r.**"

А партал Пасвентненскай гміны прыносіць яшчэ цікавейшыя інфармацыі: „**W XVI wieku wzrosło tempo kolonizacji mazowieckiej, która opierała się głównie na drobnej szlachcie i sięgnęła puszcz podlaskich, powodując powstawanie osad drobnoszlacheckich. Rozwój osadnictwa oraz przyrost naturalny spowodowały powstawanie nowych wsi, tzw. przysiółków. Proces ten najbardziej uwidocznił się w nazwach. Nowe wsie otrzymywały, obok nazwy wspólnej ze starą wsią, nazwę drugą. Pierwszy człon złożonej nazwy pochodzi od nazwiska rodu, drugi stanowi określenie gałęzi rodu, która daną wieś zasiedliła. Do dzisiaj występują w tym regionie niespotykane na innych terenach Polski tzw. wsie gniazdowe, które charakteryzują się wspólnymi nazwami i w większości jednakowymi nazwiskami mieszkańców. Na ten okres datuje się także powstanie miejscowości Poświętne, która pierwotnie nosiła nazwę Wielkogrzeby (lub Wielkogrzewy) i powstała prawdopodobnie przed 1486 rokiem. W tym właśnie roku nastąpiło bardzo ważne dla tych okolic wydarzenie natury religijnej, ponieważ grunt tejże wsi został darowany jako uposażenie powstałej tu filii parafii suraskiej. W ciągu lat 1486-1501 zmiana nazwy musiała mieć jakieś uzasadnienie. Możliwe, że wywodziła się ona od faktu przejmowania dóbr kościelnych przez ludzi świeckich (sekularyzacja) — stąd nazwa Święte i Poświątne. Innym wytłumaczeniem może być też fakt poświęcenia ziemi pod nowy kościół w Wielkogrzebach. W 1827 roku gmina Poświętne należała do powiatu mazowieckiego, posiadała kościół parafialny, szkołę początkową oraz urząd gminy. Na terenie gminy istniało w ówczesnych czasach 865 domów, które zamieszkiwało 6548 osób. Granice administracyjne gminy obejmowały swym zasięgiem 29 wsi szlacheckich oraz 6 wsi włościańskich**". Шляхта гэта не мужыкі!

І яшчэ *Слоўнік*: „**W skład gminy [Poświętne] wchodzi stacya dr. żel. warsz.-peter. Łapy**"...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Новыя ўлады БГКТ у Гайнаўцы

У нядзелю, 1 снежня г. г., адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя Павятовага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гайнаўцы. Прынялі ў ёй удзел старшыня Галоўнага праўлення ГП БГКТ у Беластоку Ян Сычэўскі і сакратар ГП Валянціна Ласкевіч, староста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук і намеснік старасты Андрэй Скепка, бургамістр Гайнаўкі Юрый Сірак, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч і войт Чыжоўскай гміны Юрый Васілюк ды радны Нараўчанскай гміны Лявон Хлябіч і солтыс Новага Ляўкова Ян Целушэцкі.

Канферэнцыю вёў Яўген Валкавыцкі. Справаздачу з дзейнасці беларускай арганізацыі ў 2010-2013 гадах зачытала старшыня Праўлення Павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы Іаланта Грыгарук, а справаздачу рэвізійнай камісіі — Уладзімір Прыступюк.

У дыскусіі ўзяло ўдзел васемнаццаць асоб. Выступоўцы падкрэслілі першнаперш вялікую ролю БГКТ у развіцці нацыянальнай культуры і асветы ў Польшчы. Паспяхова развіваецца супрацоўніцтва БГКТ з самаўрадамі, між іншым, Гайнаўкі і Гайнаўскай вясковай гміны ды Чыжоўскай і Нараўчанскай гмін, а таксама з гміннымі культурнымі ўстановамі.

У Нараўчанскай гміне ў прыгожых вясковых святліцах вечарамі ладзяць аўтарскія сустрэчы з беларускімі паэтамі. Мясцовыя літаратары развіваюць мову сваіх продкаў. Сваёй мовай трэба даражыць. (Пра іх шмат можна прачытаць на старонках „Нівы"). У бібліятэцы ў Старым Ляўкове ёсць шмат беларускіх кніжак і тут іх чытаюць.

Войт Гайнаўскай гміны ў сваім выступленні заявіла, што шукае ахвотных, хто змог бы апісаць гісторыю беларускіх вёсак вакол Гайнаўкі. Такія гістарычныя весткі вельмі прыдадуцца будучым пакаленням. Зараз вёскі абязлюджаны ды ціха бясследна выміраюць.

Пра закалоты вакол справы ахоы Белавежскай пушчы распавёў радны з Нараўкі Лявон Хлябіч і паставіў рытарычнае пытанне, што далей будзе з гэтай каралевай пушч і якое тут будзе жыццё насельніцтва пушчанскіх вёсак.

Удзельнікі дыскусіі звярнулі ўвагу на адсутнасць супрацоўніцтва гайнаўскага Музея і асяродка беларускай культуры з БГКТ (гэтак не можа быць) ды на небходнасць большай добрасумленнасці ў працы некаторых журналістаў беластоцкіх медыяў, калі тыя бяруць на прыцэл дзейнасць БГКТ, ладжаныя ім культурныя мерапрыемствы з удзелам беларускіх мастацкіх калектываў. Між іншым, у тэлебачанні былі шкодныя беларусам паказы народнага гуляння — Купалля.

Удзельнікі канферэнцыі выбралі ў яўным галасаванні новае (з 15 чалавек) Праўленне Павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы, якое ўзначаліла Іаланта Грыгарук. Абавязкі намесніка старшыні будзе выконваць Ніна Абрамюк, сакратара Вера Масайла, скарбніка Віктар Дзік і члена прэзідыума Ян Сухадола. Рэвізійную камісію ўзначаліў Аляксей Герасімюк.

На XVII З'езд БГКТ, які адбудзецца 22 снежня г.г. у Беластоку, з Гайнаўскага павета паедзе чатырнаццаць дэлегатаў, выбраных у тайным галасаванні. **(яц)**

# Заблытаная наша мінуўшчына (ч. 2)



Як жа ж інакш, як не горкім парадоксам, насмешкай гісторыі можна назваць той факт, што тыя самыя беларусы (толькі розныя пакаленні) так ахвярна бароняць унію ад праваслаўя, як раней баранілі праваслаўе ад уніі?

Выглядае гэта і смешна, і грэшна, але вінаваты ў гэтым не яны, а тыя, хто даводзіў беларусаў да такога стану. А значыць, гэта унія і антыунія нічога супольнага з сапраўдным хрысціянствам не мелі, а толькі з грубай палітыкай. Вось чаму навязанне беларусам рэлігійнай уніі ў 1596 годзе і спосаб яе ліквідацыі ў 1839 г. — гэта чорныя даты нашай гісторыі, акты насілля і гвалту, грубага таптання асноўнага і элементарнага і нацыянальна-рэлігійнага і агульначалавечага права — волі сумлення і веравызнання. Дзе не гарантуецца гэтае права, там нельга гаварыць аб талерантнасці...

Калі б аднак параўнаць гэтыя два гвалты, дык, бясспрэчна, навязанне уніі было намнога большым гвалтам, чым яе ліквідацыя. Хаця б таму, што той гвалт быў першым. Не было б першага, не магло б быць і другога. Так ужо ёсць на гэтым свеце, што пачатае зло, як і дабро, далей толькі множацца. Найбольшае аднак і невыбачальнае зло уніі заключаецца ў тым, што праз яе свядома быў дадзены пачатак падзелу нашага спакойнага народа на тры ўзаемаварожыя свядомасці: праваслаўную, уніяцкую і каталіцкую, з ліквідацыяй якой беларусы справіцца не могуць і па сёння. Змяняліся і змяняюцца толькі колькасныя прапорцыі паміж гэтымі канфесіямі, не гаворачы ўжо пра мора пралітых слёз, крыві і цэлай арміі рэлігійных мучанікаў. З усіх бакоў, канешне. А колькі ж Беларусь і наша мясцовасць праз гэтыя рэлігійныя камбінацыі страціла свайго нацыянальнага патэнцыялу на карысць сваіх суседзяў?!.

З рэлігійнага пункту гледжання унія была таксама злом, бо з дзвюх канфесій паўстала не адна, а тры — як было ўжо сказана — узаемаварожыя і ваюючыя адна з другой. Як быццам было яшчэ мала ўсялякіх падзелаў і варажнечы паміж хрысціянамі і як быццам забылі, што дзяленне Дому Божага заўсёды з'яўляецца вялікім грахом, а замена сілай адной хрысціянскай канфесіі другой — амаральным дзеяннем, нязгодным з духам хрысціянства.

Царкоўная унія была шкоднай не толькі для русінаў (беларусаў і ўкраінцаў). Моцна зашкодзіла яна і самой Польшчы, прычыніўшыся ў немалой ступені да яе гібелі. Ой, меў рацыю выдатны польскі пісьменнік і гісторык Павел Ясяніца, называючы ўвядзенне царкоўнай уніі «**obłędem**»...

А вось карыфей польскай літаратуры Стэфан Жаромскі наадварот — быў ярым праціўнікам ліквідацыі уніі і замены яе праваслаўем. І гэта вельмі дзіўнае, бо ніяк не хочацца паверыць у тое, што ён любіў унію і ўніятаў і што быў надта веруючым католікам. Быў ён проста тыповым прадстаўніком заходняй аптацыі, якая — як бачым — нічуць не змянілася да нашага часу. Свае погляды на канфесійныя справы найбольш выразна паказаў С. Жаромскі ў сваіх дзённіках з 1889-1890 гадоў, калі пражываў сярод нашых былых тутэйшых уніятаў. А пазнаёміў з імі Аляксандр Вярбіцкі ў артыкуле «Фармаванне духовага космасу», змешчанага ў 43 нумары «Нівы» за 27.10.2013 год. Менавіта гэты матэрыял справакаваў мяне да напісання гэтага артыкула. Пры такой нагодзе хачу таксама некалькі слоў сказаць і пра Аляксандра Вярбіцкага. Я даўно сачу за ім і магу ўжо з поўнай адказнасцю сказаць, што з яго атрымаўся добры, пранырлівы журналіст. Пры кожнай разгляданай ім тэме стараецца дакапацца да аб'ектыўнай ісціны, ды раскрыць яе граматна і займальна. У разгляданай намі тэме Алксандр Вярбіцкі больш аб'ектыўны, больш справядлівы як Стэфан Жаромскі. Ён вельмі добры набытак для «Нівы».

А цяпер вяртаймася да С. Жаромскага і яго дзённікаў. З іх выразна вынікае, што ён ненавідзіць — як сам кажа — маскалёў, праваслаўя і настаўніка Цімошы. Не любіць ён аднак і мясцовых русінаў, і мовы іх. Выглядае на тое, як бы цар загадаў ім гаварыць па-маскоўску — і яны загаварылі. Царква маскоўская, мова маскоўская, Русь вакол — і ўсё гэта толькі пяць міль ад Седльцаў. Страшэнна крыўдна С. Жаромскаму глядзець на ўсё гэта. А акружэнне як бы згаджалася з усім гэтым — вакол панавала цішыня, надзвычайная цішыня. Калі, паводле пісьменніка, крычаць, пратэставаць, пакутаваць трэба, бо на вачах адбываецца найстрашнейшы гістарычны акт — **wynarodowienie**...

Канешне, пра крыўду С. Жаромскага і тутэйшага русінскага народа сказана ў дзённіках прыгожа, але, на жаль, не ўсё. Пры такой нагодзе трэба было абавязкова прыпомніць яшчэ, што ліквідацыя царкоўнай уніі і русіфікацыя з'яўляюцца ўжо другой іх нацыянальна-рэлігійнай трагедыяй. Першай, пра якую гэтае пакаленне ўжо не ведае, было навязанне ім царкоўнай уніі і паланізацыя. Пра гэта і цяпер многія не ведаюць, ці не хочуць ведаць. Не ведаюць таксама, што ўніятамі былі толькі ранейшыя праваслаўныя, значыць, беларусы і ўкраінцы. Палякі-католікі ўніятамі проста не маглі, не мелі права быць.

Смешным, несур'ёзным з'яўляецца і той фрагмент дзённікаў С. Жаромскага, у якім ён проста радуецца, што адзін з новаспечаных праваслаўных, Леанюк, абманвае свайго бацюшку, бо не ходзіць да яго ў царкву, не спавядаецца ў яго. А спавядаецца ціхачом гэта аж васемнаццаць міль ад дому ў святыні іншай канфесіі. Гэтае маленькае ашуканства пісьменнік называе «**błogosławioną nagrodą**».

Астаецца шкадаваць, што С. Жаромскі не дажыў да нашага часу. І не можа парадавацца з нашчадкамі Леанюкоў, што яны ўжо без страху і абману могуць не хадзіць у нелюбімую імі царкву. Здзіўляе толькі тое, што перасталі яны хадзіць і ў любімую ўніяцкую царкву. Гэтых цэркваў ужо там няма. А значыць, праваслаўе і Русь адсунуліся далей ад Седльцаў. І не пачуў бы ў Лысаве нелюбімага: «**Wasil! Smotri doski u tiebia z woza letiat...**». Хоць я і сумняваюся, што менавіта так крычалі лысаўскія дзяўчаты...

**Васіль САКОЎСКІ**

---

Прадмет Навука
Па-беларуску Адпаведна Біблії

**http://n-compas.jimdo.com**

Сучасныя рэалія такія, што беларускамоўная адукацыя, мякка кажучы, не надта распаўсюджана нават у Беларусі, дзе беларуская мова з'яўляецца нібыта адной з дзяржаўных. На беларускай мове немагчыма атрымаць вышэйшую адукацыю. Выключэнне тут могуць складаць факультэты беларускай філалогіі, але і там будуць прадметы, якія ўсё роўна выкладаюцца не па-беларуску. З сярэдняй адукацыяй крыху лепш. Але гэтае „лепш" вельмі адноснае — калі беларускамоўных вышэйшых навучальных устаноў не існуе ўвогуле, то нават адзін клас у сярэдняй школе будзе „лепш" за нічога. Колькасць беларускамоўных гарадскіх школ можна пералічыць на пальцах, прычым, магчыма, хопіць адной рукі. Тая ж сітуацыя, калі не горшая, з прадшколлямі.

У такіх варунках апантаныя беларускасцю бацькі мусяць нешта рабіць, каб для іх малых дзяцей беларуская мова не стала тым, чым яна стала для сённяшняга беларускага правіцеля — беднай мовай, на якой немагчыма выказаць нічога разумнага. Паколькі ўсе клапатлівыя аб дзецях бацькі самі вучаць таму-сяму сваіх нашчадкаў, то некаторыя прапануюць рабіць гэта па-беларуску з выкарыстаннем інтэрнэту. Адным з прыкладаў такога навучання з'яўляецца сайт „Прадмет Навука. Па-беларуску, адпаведна Біблії", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://n-compas.jimdo.com**.

Даны незвычайны сайт стварыла маладая мінчанка Надзея Гарэцкая, якая з'яўляецца прыхаджанкай пратэстанцкай царквы „Ян Прадвеснік", дзе, як яна ўласна піша, займаецца рознымі справамі. „Выкладанне прадмету — адзін з маіх любімых заняткаў. Па-першае, вопыт працы з дзецьмі мяне натхняе, па-другое, я маю радасць, што магу закласці ў нашае будучае пакаленне нейкія крупінкі ісціны", — кажа яна на старонцы „Пра мяне". Там жа знаходзяцца два яе вершы, прысвечаныя сыну Вітаўту.

Што ж тычыцца ўласна сайта, то ён узнік зусім нядаўна — у мінулым лістападзе, і зроблены на платформе Jimdo. Выгляд яго даволі просты, калі не казаць, прымітыўны. Але Надзя парупілася, каб змест значна пераўзыходзіў форму. „Гэты сайт створаны для таго, каб дапамагчы беларускамоўным бацькам расказваць сваім дзеткам пра цуды прыроды, якую стварыў Госпад", — кажа жанчына на галоўнай старонцы сайта. Пры гэтым яна адзначае, што яе прадмет „Навука" з'яўляецца альтэрнатывай звычайнаму школьнаму прадмету „Сьвет вакол нас". „Самае галоўнае адрозьненьне ў тым, што падача матэрыялу адбываецца з пункту гледжаньня Стварэньня сьвету Госпадам. Праграма курсу, як і самі прэзэнтацыі, распрацаваныя такім чынам, каб найлепш растлумачыць дзецям, што наш Сусьвет, такі дасканалы і прыгожы, створаны Дасканалым Айцом Нябесным, які бязьмежна любіць чалавека і стварыў гэты цуд для нас", — распавядае Надзя, словы якой гучаць неяк вельмі па-пратэстанцку. Праўда, думаецца, кожнаму веруючаму чалавеку чуць такі пратэстанцкі акцэнт прыемней, чым тэорыю Дарвіна.

Усе выйсці на іншыя старонкі сайта месцяцца з правага боку цэлага выяўлення. Сярод іх — „Матэрыялы", якія падзелены па ўзросце дзяцей, для якіх яны прызначаны. Сярод матэрыялаў — як слайды, так і відэапрэзэнтацыі. Праўда, апошнія не выконваюць галоўнай мэты сайта — навучання на беларускай мове, бо тое прыгожае відэа агучана не па-беларуску.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

## Дата з Календара

### Шукаў беларускіх шляхоў

# 70 гадоў з дня смерці Вацлава Іваноўскага

Асоба Вацлава Іваноўскага мне надзвычай дарагая. І таму, што ён мой зямляк, ураджэнец Шчучыншчыны. І таму, што з цікавасці да яго біяграфіі пачалося маё захапленне краязнаўствам. І найперш таму, што гэта быў чалавек, які не атрымаў беларускага выхавання, вырас у шматнацыянальнай сям'і, але стаў шчырым рупліўцам менавіта беларускай справы.

Вацлаў Іваноўскі нарадзіўся 7 чэрвеня 1880 г. у маёнтку Лябёдка тагачаснага Лідскага павета. У 1904 г. скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, да 1913 г. займаўся навуковай і выкладчыцкай працай у Пецярбургу. Заснавальнік Беларускай рэвалюцыйнай партыі (1902). Займаўся выдавецкай дзейнасцю, зрабіў апрацоўку першага буквара сучаснай беларускай мовы. У 1904-1905 гг. член Цэнтральнага камітэта Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). Адыграў важную ролю ў арганізацыі прапагандысцкай работы БСГ, заснаванні партыйнай друкарні ў Менску і выдавецтва „Грамада" ў Пецярбургу. На пачатку 1906 г. узначаліў створанае ім у Пецярбургу першае беларускае выдавецтва — суполку „Загляне сонца і ў наша аконца". Супрацоўнічаў з газетамі „Наша доля" і „Наша ніва", пісаў пад псеўданімам Вацюк Тройца.

У 1913-1915 гг. Іваноўскі жыў у Вільні, працаваў у Віленскім таварыстве сельскай гаспадаркі, кіраваў Беларускім выдавецкім таварыствам, спрыяў заснаванню беларускай кнігарні Вацлава Ластоўскага. У 1915 г. — старшыня Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Потым адышоў ад палітычнай дзейнасці і жыў у Расіі. У Беларускі нацыянальны камітэт пад старшынствам Рамана Скірмунта абраны завочна. Пасля рэвалюцыі 1917 г. уключыўся ў палітычную дзейнасць, удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе 1917 г. у Менску.

У 1918 г. стаў міністрам асветы ва ўрадзе БНР. У снежні 1918 г. пасля адступлення нямецкіх войск застаўся ў Менску, спадзеючыся на стварэнне кааліцыйнага ўрада БССР з удзелам камуністаў і сацыял-дэмакратаў. У траўні 1919 г. арыштаваны саветамі і інтэрнаваны ў Смаленск. Пасля вызвалення адмовіўся выехаць у Польшчу, вярнуўся ў Менск. Пераканаўшыся ў памылковасці арыентацыі на Савецкую Расію, пачаў супрацоўнічаць з польскай адміністрацыяй. Імкнуўся прадухіліць падзел Беларусі, выступаў за стварэнне федэрацыі Польшчы і Беларусі. Адначасна займаўся беларускімі школамі на Меншчыне, кіраваў педагагічным інстытутам, арганізаваў выпуск штотыднёвіка „Рунь".

У 1922-1939 гг. займаў пасаду прафесара Варшаўскага політэхнічнага інстытута. Пасля заваявання Польшчы нацысцкай Германіяй, восенню 1939 г. ізноў апынуўся ў Вільні, выкладаў тут ва ўніверсітэце. Кіраваў аднаўленым Беларускім нацыянальным камітэтам. У 1942 г. прызначаны нямецкімі ўладамі на пасаду бургамістра Менска. Быў старшынёй Беларускай рады даверу пры Генеральным камісары Беларусі Вільгельме Кубэ, адначасна быў намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства, узначальваў Беларускую народную самапамач. Падтрымліваў сувязь з прадстаўнікамі Арміі Краёвай.

6 снежня 1943 г. Вацлаў Іваноўскі быў цяжка паранены невядомымі на вуліцы, прывезены ў шпіталь, але там, пакінуты без лекарскай дапамогі, назаўтра памёр. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Менску. 16 снежня 2006 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё надмагільнага помніка гэтаму неардынарнаму беларускаму патрыёту.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Добра мець сяброў



Спатрэбілася мне паехаць у Беласток. І тут выніклі складанасці. У назначаны дзень, а было гэта ў пятніцу 22 лістапада, вымушаны я быў афарміць тэрміновыя справы ў Чаромсе, затым даехаць у Беласток перад 14-й гадзінай. У мінулым не было б з гэтым праблемы. У сталіцу ваяводства адпраўляліся цягнікі зранку, у абедні час і на адвячорку. Зараз курсіруе адзін маршрутны цягнік а 5:35 і вяртаецца назад у 15:40. Уласным аўтамабілем не карыстаюся. Затым прыходзіцца карыстацца паслугамі знаёмых.

«Свет не без добрых людзей», — гавораць у народзе. З дапамогай прыйшла сяброўка Валя Каляда з Бельска-Падляшскага, жонка сардэчнага калегі Сцяпана. Разам з прыяцелем працавалі мы ў Чаромсе на чыгуначнай станцыі. Зараз абодва мы на заслужаным адпачынку. Быццам браты параднілiся. Сцяпан — чытач «Нівы», цікавіцца беларускай літаратурай, чытае публікацыі ў «Беларускім гістарычным зборніку» і «Часопісе». Ягоная жонка ўдзельнічае ў «Васілёчках», шмат гадоў спявае, выступае сола, а ў рынчаной эканоміцы займаецца мабільным гандлем. Невялічкай пенсіі супруга не хапае на жыццё. І так вандруе Валя з рынку на рынак. Па пятніцах наведвае Чаромху. Калі я выявіў сваю просьбу, адказала: «Не бачу праблемы. Падвязу ў Бельск. Адтуль дабярэшся ў Беласток. Аўтобусы курсіруюць безупынна — сямятыцкія, бельскія, «Пагода». Паспееш».

Рынак у Чаромсе аказаўся для сяброўкі няўдачлівым. Нічога не зарабіла, адно на паліва затраціла. Кліентаў на пальцах можна было палічыць. Невядома, што паўплывала — асеннее дажджавое надвор'е, ці эканамічны крызіс? Дамовіліся спаткацца перад чыгуначным вакзалам. Сяброўка пад'ехала ў 10:35. Падаліся спярша ў Кузаву, затым, забраўшы багаж з дома, праз Рэпчыцы, у Бельск-Падляшскі. На размове непрыкметна сцякаў час. Мінулі Кляшчэлі, Сухавольцы... На абочыне, непадалёк Залешанаў, прыкмячаем побач лесу аўтамабіль. Пусты. Значыцца, хтосьці грыбоў шукае. «Гавораць, што баравікі знаходзяцца», — кідае Валя.

Пад'язджаем у Малінніکі. Тут жа, за паваротам, за будынкам даўнейшай школы прыкмячаем з процілеглага боку перавернуты аўтамабіль на гайнаўскай рэгістрацыі. Пасажыраў і шафёра не прыкмецілі. Спераду мігалі адно не выключаныя сігнальныя лямпачкі. Побач стаяла некалькі чалавек і службовы аўтамабіль «Польскага радыё Беласток». Ані паліцэйскіх, ані хуткай дапамогі. Перад Пашкоўшчынай, насупраць Градалёў, размінуліся мы з пажарным аўтамабілем. Шпарыў на сігнале ў напрамку Маліннік.

З Бельска адправіўся я на аўтобусе ў 11:45. Апрача мяне ў машыну зайшло не больш пяці-сямі чалавек. У горадзе дабавілася яшчэ каля дзесяткі. На чарговых прыпынках адны выходзілі, іншыя заходзілі. Там, дзе не было пасажыраў, аўтобус не спыняўся. У Рыбалах зайшла адна асоба. Апранутая была ў рабочую вопратку і гумавыя «фільцы». Спярша я не мог разабрацца — хлапец гэта ці дзяўчына. Невялікі рост, мізэрная фізіяномія прыгадвалі падлетка. Заняла яна месца спераду, непадалёк за шафёрам. Пачаткова я не звярнуў увагі на новую спадарожніцу. Але калі пад'ехалі крыху далей, дык незнаёмка пачала сябе дзіўна паводзіць. Рукамі кудлаціла коратка прыстрыжаныя валасы, ляпала сябе аберуч па твары, затым завяла нявеличкую гутарку з шафёрам. Няцяжка было здагадацца, што знаходзілася яна ў нецвярозым стане. Пачаткова пытала шафёра аб гадзіну. Калі той не адказваў, дык пачала абкідаць невіноўнага чалавека градам нецэнзурных эпітэтаў.

Скандалістка выйшла на пад'ездзе ў цэнтр Беластока. Я — на аўтавакзале. Набліжалася 13:30. Значыцца, паспеў. Мяне чакаў задушэўны калега Сцяпан Копа. На аўтамабілі падвёз у рэдакцыю. Там сустрэліся мы з рэдакцыйнымі калегамі. Прыемна было абмяняцца навінкамі, пагартаць свежанькую «Ніву». Сцяпану Копу я перадаў здымкі з супольнай імпрэзы, калі адзначалі 90-гадовы юбілей цёткі Надзі Сахарчук. «Гэта была цудоўная сустрэча, — канстатаваў сябра, — якую ты ўвекавечыў здымкамі. Я рад быў з табою пазнаёміцца».

Сцяпан Копа адвёз мяне да дачкі на кватэру. Там я застаўся на начлег, а Сцяпан падаўся дамоў.

Так закончылася маё беластоцкае падарожжа. Наступнай раніцы ў суботу а 7:30 мы адправіліся з даччынай сям'ёю ў Кузаву. Рэйкавым аўтобусам з кандыцыянерам без перашкоды дабраліся ў Чаромху.

«Добра мець шчырых і адданых сяброў», — раздумваў я едучы на сваім неразлучным роварах са станцыі дахаты. На такіх заўсёды можна разлічваць!

**Уладзімір СІДАРУК**

**PS.** Ад дачкі я патэлефанаваў у Маліннікі. Паспрабаваў распытаць сябру Валодзю Данілюка пра дарожную аварыю.

— Гэта пры маёй хаце здарылася. Мы дах крылі, а тут бачым, як на павароце «завіхравала» аўтамабілем і той грымнуў на процілеглы бок дарогі. З Кляшчэляў падарожнічаў мужчына гадоў пад шэсьдзесят з жанчынай. Не пацярпелі ў аварыі. Тут жа спынілася машына «Польскага радыё Беласток». Мы з сынам Гжэсем дапамаглі шафёру і жанчыне выйсці з машыны. Хуткую дапамогу выклікалі рэпарцёры Беластоцкага радыё. Жанчына нават казала, каб гэтага не рабіць, бо яны не пацярпелі. На шчасце, былі яны прышпілены рамянямі, — гаварыў Валодзя Данілюк. — Інакш, магло б закончыцца трагічна. Неўзабаве прыехала хуткая дапамога з Кляшчэль. Другая з напрамку Рыгораўцаў. Прыехалі паліцэйскія, але не з дарожнай службы. Паломаны аўтамабіль пагрузілі на эвакуатар.

3 ☞ працяг

траплялі на беларускі рынак. Прачульваю на вядзенне органамі мясцовага самакіравання сваёй знешняй палітыкі.

Амаль у канцы дэпутат Тышкевіч звярнуўся да мясцовых органаў улады:

— Мы самі з'яўляемся адрасатамі гэтай знешняй палітыкі, мы павінны навучыцца, які ёсць інтарэс дзяржавы.

Таксама заахвоціў да выкарыстання так званага інструмента ўзаемнасці, напрыклад, намаганняў, каб польскія калектывы выступалі ў Беларусі, так як беларускія — на яго думку — шматліка выступаюць у Польшчы.

Пасля сваіх даследаванняў сярод рэкамендацый **«SocLab»** пералічыў, сярод іншых, стварэнне інстытута (арганізацыі) у падтрымку партнёраў па абодвух баках мяжы, умацаванне пазіцыі еўрарэгіёнаў, неабходнасць падтрымкі дзеянняў для міжсектарнага супрацоўніцтва (каардынацыя рэгіянальных устаноў, арганізацый, органаў мясцовага самакіравання і г.д. на міжнароднай арэне), уключэнне ў больш шырокае кола прыгранічнага супрацоўніцтва арганізацый меншасцей, стварэнне электронных баз даных аб жадаючых супрацоўнічаць ці ўвядзенне трансгранічнага супрацоўніцтва як прадмета навучання (факультэта) у вышэйшых навучальных установах у рэгіёне.

З падрабязнымі вынікамі тэставання можна азнаёміцца на вэб-сайце: www.soclab.org.pl.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — арабскую пагаворку.

1. частка абутку пад пятой = 12 _ 7 _ 42 _ 2 _ 38 _;
2. насякомае з джалам = 8 _ 17 _ 36 _;
3. адрас падапечных бортніка = 31 _ 32 _ 30 _ 5 _ 6 _;
4. Іаган Вольфганг, нямецкі паэт (1749-1832) = 9 _ 44 _ 11 _ 10 _;
5. хімічны элемент н-р 53 = 39 _ 15 _ ;
6. марка савецкага матацыкла = 4 _ 1 _;
7. горад на Чарнігаўшчыне на рэчцы Асцёр = 3 _ 23 _ 40 _ 41 _ 35 _;
8. гарадок Кірылы Тураўскага = 28 _ 29 _ 13 _ 14 _ 37 _;
9. вертыкальная частка памяшкання ў загалоўках твораў Васіля Быкава і Сакрата Яновіча = 24 _ 26 _ 25 _ 20 _ 21 _;
10. псеўданім югаслаўскага палітычнага лідара Іосіфа Броза = 43 _ 27 _ 33 _ 34 _;
11. працьма ў старажытнарускія дзесяць тысяч = 18 _ 19 _ 22 _ 16 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | | | 27 |
| | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |
| | | | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 |
| | | | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Рынг, фен, Якаў, лірыка, чужына, сяўба, ясень, шыла, цаля, скрыня, ванілін, Ладага, клуня, клешч.

Рашэнне: **Ліжучы не наясіся, даганяўшы не нацалуешся**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

# 08.12 — 14.12

**(22.03. — 20.04.)** Зоркі адораць цябе красой і мілатой, і ніхто перад табою не ўстаіць. Лёгка здабудзеш сімпатыю, нават тых, хто да цябе дагэтуль ставіўся варожа. Але ў горшых хвілінах разлічвай толькі на сябе. Форма някепская. Пільнуйся на коўзкіх тратуарах. Старанна кампануй дыету.

**(21.04. — 21.05.)** Можаш захапіцца няданым пазнанай асобай. Будзеш пабуджаны, дык можа цябе турбаваць бяссонніца. 10-14.12. можаш мабілізавацца да вельмі вялікага высілку, будзеш ставіць на сваім. Можаш здзейсніць свае мары.

**(22.05. — 22.06.)** 8-12.12. шмат спраў моцна папхнеш дапераду. У каханай асобе будзеш мець сапраўдную апору. Смела можаш прадставіць свае планы сям'і, разлічваючы на яе падтрымку. Моцная воля — цяпер тваё імя. 11-15.12. будзеш адважны і перакануўчы, ідзі на кваліфікацыйныя размовы, негацыяцыі адносна павышэння.

**(23.06. — 23.07.)** 8-12.12. маеш шанц здабыць сімпатыю важнай для цябе асобы. Для шукаючых пары знакаміты час — 11-15.12. (звярні ўвагу на сінглаў сярод сваіх старых знаёмых), прыйдуць табе ў галаву добрыя задумы, пацягнеш за сабою іншых. Добры настрой, але не зашкодзь сабе абжорствам ці п'янствам.

**(24.07. — 23.08.)** 12-16.12. наладзіш новыя кантакты, памогуць яны табе ў рэалізацыі тваіх мэт. У тваёй пары росквіт пачуццяў. Самотным Ільвам таксама ўсміхнецца шчасце. Дома даведаешся чагосьці, што напоўніць цябе гонарам ад мінулых здабыч тваёго роду. Але можа цябе турбаваць рэўматызм.

**(24.08. — 23.09.)** Дзякуючы перш за ўсё Венеры зазяеш поўным бляскам. Дома пачуеш аптымістычныя весткі, якіх ты доўга чакаў. На працы перанясеш навальніцу, дзякуючы перш за ўсё свайму спакою і неканфліктнасці. 8-12.12. перапоўніць цябе такая энергія, што нават параза цябе не напалохае; добра пойдзе ў інтарэсах.

**(24.09. — 23.10.)** Гожа разбярэшся з усімі штодзённымі справамі, будзеш мець час на сустрэчы з раднёй і сябрамі. Шмат нагод пагуляць. Трымай, аднак, свой язык за зубамі, не рассакрэчвай сваіх задум, асабліва перад тымі, хто цябе ўжо расчараваў. Вельмі добры час на рэалізацыю амбітных планаў. А на найбольшы прыбытак маеш шанц 11-15.12.!

**(24.10. — 22.11.)** Старайся не стрэсавацца на працы, бо гатовы гастрычныя праблемы. Але 8-12.12. знойдзеш вельмі добрых саюзнікаў, прыйшоў час рвануць уперад! Магчымы несподзяваны прыліў грошай! Але 9-13.12. не загарыся да чагосьці, што не мае будучыні, не ўвальвай усёй энергіі ў адну справу.

**(23.11. — 22.12.)** 11-15.12. возьмешся за рэалізацыю абавязацельстваў, пачакай прафесійных дзеянняў. Адказна і з вялікім роздумам падыдзеш да фінансавых спраў. Калі ты нерашучы Стралец, урэшце вырашыш аб змене падыходу ў сваім пачуццёвым жыцці — будзе гэта або эмацыянальная інвестыцыя, або расстанне. На нервы найлепшыя прыбіранне або танец.

**(23.12. — 20.01.)** Венера прынясе шчасце самотным Казярогам. Рушыць з капыта твая кар'ера. Добры час на вучобу. Злёгку пойдзе ўверх у фінансах. Але вельмі дакладна плануй пры грашах і з матэматычнай меткасцю выбірай мэты — чакаюць цябе прыбыткі вартыя зайздрасці!

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш мець прыцягальную моц, ззянне, самаўпэўненасць. Сыпанеш геніяльнымі задумамі як з рукава! Ніхто не папсуе табе настрою, убачыш добрыя бакі ў кожнай сітуацыі. Патрэніруйся. Мабыць, дарачаць табе нялёгкія і цалкам новыя заданні — справішся з імі з запалам. Варта цяпер спаткацца са сваякамі, перш за ўсё з далейшымі.

**(20.02. — 21.03.)** Самотным Рыбам зоркі прынясуць каханне, якое дадасць ім крылаў, сцішыць праблемы і спатоліць нервы. Вельмі дбай аб сваю пячонку, еж лягчэйшае. Збірайся за падвядзенне мінаючага года і новыя планы. Можаш знайсці дадатковую работу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва**
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Юбілей «Беларускага абраду на сцэне»

**Цэнтральнае мерапрыемства XX Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне», якое адбылося 24 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры, было падвядзеннем вынікаў раённых прэзентацый у Беластоку, Бельску-Падляшскім і Дубічах-Царкоўных. Усе агляды ладзіліся Галоўным праўленнем БГКТ. У прыпушчанскім горадзе самадзейнікі паказвалі вясковае жыццё ў мінулым, якога практычна сёння ўжо няма. Лічаць яны, што трэба захоўваць колішнія абрады і песні, бо гэта нашая традыцыя і гісторыя, якая можа быць адукацыйным матэрыялам для дзетак і моладзі, зацікаўленых мінуўшчынай.**


Вучні з Нарвы па-майстэрску запрэзентавалі абрад «Розгляды»

Хаця ў канцэртнай зале ГДК сабраліся ў галоўным людзі сталага ўзросту, то дзякуючы кабельнаму тэлебачанню мерапрыемства пабачылі гледачы ўсіх узростаў у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім.

Беларускае мерапрыемства адкрылі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі і старшыня павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы Іаланта Грыгарук, а вядучай была Барбара Вашчэнка. Старшыня Ян Сычэўскі пры нагодзе юбілею падвёў вынікі 20-гадовага мерапрыемства — за гэты час было паказаных каля 300 абрадаў.

Публіка з асаблівым зацікаўленнем пазглядзела выступленні дзетак і моладзі, якія захапілі акцёрскімі здольнасцямі і ўмеласцямі. Сярод маладых станоўча вылучаліся асобы, якія здабылі вопыт на дэкламатарскіх конкурсах і «Беларускай гавэндзе». Вопратка, стылізаваная на даўнюю, і сцэнічнае афармленне таксама былі адпаведна падрыхтаваныя. Аднак, канешне, з захаваннем аўтэнтычнай мовы і колішняй атмасферы запрэзентавалі абрады найстарэйшыя ўдзельнікі агляду. Частка маладых выступала ўжо на беларускай літаратурнай мове, засвоенай у школе, бо дома найчасцей размаўляюць ужо па-польску.

Хіба ўжо нават сённяшнія найстарэйшыя жыхары вёсак не памятаюць абраду з хлебам, які маладая дзяўчына павінна аднесці ў хату жаніха, калі ён ёй не падабаецца. Аўтэнтычную гісторыю з далёкага мінулага, на падставе гэтага абраду, паказалі вучні, якія займаюцца ў Гайнаўскім доме культуры ў калектыве «Званкі» пад наглядам Веры Масайлы. Двух хлопцаў умела ігралі на акардэонах, астатнія паказалі свае акцёрскія здольнасці ў абрадзе «Хлеб — святая рэч».

— Гэта аўтэнтычны расказ. Дзяўчына была закаханая ў аднаго хлопца, а хлеб атрымала ад іншага. Дома сказала, што хлеб аднясе, але схавала ў клуні, бо саромелася ісці ў чужую хату. Гэтым самым мусіла выйсці замуж за нялюбага. Калі святкавалі яны 50-годдзе супольнага жыцця, муж, які ўсё жыццё дагаджаў сваёй жонцы, сказаў журналісту, што без агляду ажаніўся б з жонкай другі раз. Тая нічога не адказала, бо ўсё жыццё марыла аб каханым з маладасці, — расказала Вера Масайла.

— Хаця гэта сумны расказ, мы асаблівую ўвагу звяртаем як добра выступіць на сцэне і не забыць свайго выказвання. Гэта для нас добрая гульня, — заявіла Іаанна Хомчук з Гайнаўкі.

З перадвясельным, больш сучасным абрадам «Розгляды» выступілі вучні з Нарвы пад наглядам настаўніцы беларускай мовы Ніны Абрамюк. Асаблівымі акцёрскімі здольнасцямі вылучыліся Крыстыян Паскробка і Агата Беразавец, пераможцы ў конкурсах «Беларуская гавэнда» і «Роднае слова». Ігралі яны бацьку і мачаху будучай маладой. У размове са мной толькі пацвердзілі, што выступаць на сцэне навучыліся ў час беларускіх конкурсаў.

— Мы — адзіны прадстаўнік ад школ, бо іншыя вучні рыхтаваліся ў дамах культуры. Зараз ідзе ў нас падрыхтоўка да прадметнага конкурсу па беларускай мове. Мы інтэнсіўна рыхтаваліся да агляду з дарослымі, бо ж школьнікі тэатральныя пастаноўкі паказваюць вясной, — сказала настаўніца Ніна Абрамюк.


«Васілёчкі» прадстваілі абрад „Сваты”

Калектыў «Антракт» з Бельскага дома культуры, якім апякуецца Альжбета Фіёнік, паказаў абрад «Зажынкі». У ім таксама выступілі здольныя дэкламатары беларускага слова.

— Мы звяртаем асаблівую ўвагу на захаванне аўтэнтычнай мовы, вопраткі і дэталяў абрадаў, бо тады іх прэзентацыя мае вялікую адукацыйную вартасць, як для нашых дзетак, так і для публікі. Менавіта сённяшнія прэзентацыі патрэбныя вучням — яны вучацца нашым беларускім традыцыям і гісторыі, — заявіла Альжбета Фіёнік.

Кіраўнік калектыву Вясковага дома культуры ў Рыбалах Лідзія Мартынюк у падрыхтоўку абраду таксама ўключыла дзетак і моладзь. Удала паказалі яны «Адведкі». Акцёры ў розным узросце былі патрэбныя, каб запрэзентаваць атмасферу гэтага абраду.

— Цяпер бывае, што з хрышчэннем дзіцяці бацькі чакаюць нават па некалькі месяцаў, або прынамсі, калі пост скончыцца. У мінулым гэта было неўспрымальным, бо людзі апасаліся, што іх дзіця без апекі анёла-ахоўніка можа захварэць. Трымаліся таксама розных вераванняў, апасаючыся, што іх дзіця можа нехта *спаўрочыць*. Да хрышчэння, якое адбывалася неадкладна пасля нараджэння дзіцяці, не выносілі яго з хаты, бо баяліся, што нешта дрэннае можа з ім здарыцца. Мы менавіта рашыліся паказаць гэтыя вераванні, — сказала Лідзія Мартынюк.

Моладзь выступіла таксама ў калектыве «Малінкі» з Малінніка. Цікава яны паказалі «Масленіцу», падрыхтаваную пад рэжысёрскім наглядам кіраўніка калектыву Веры Нічыпарук.

— Мы паказваем такія абрады, якія памятаем са сваёй маладасці, а пра сырапусны тыдзень, які ў нас называлі «Масленіцай» нават і зараз многа гаворыцца ў царкве, бо папяраджвае ён Вялікі пост. Прывезлі мы маслабойку і пакажам як рабілі масла. Аб гэтым малодшыя мала ведаюць, або і не ведаюць увогуле. Будзем таксама паказваць як людзі спявалі і весяліліся перад самым строгім постам, — сказалі яшчэ перад выступамі Вера Нічыпарук і Валянціна Троц.

У час прэзентацый выступілі два калектывы з такім самым названнем — «Асенні ліст». Адзін, гэта добравядомы калектыў з Гарадка (кіраўнік Галена Бура), які цікава прадставіў «Сваты». Другі, гэта заснаваны ў гэтым годзе Калектыў Універсітэта трэцяга веку ў Бельску-Падляшскім, які дзейнічае пад кіраўніцтвам Тамары Русачык, старшыні аб'яднання «Універсітэт трэцяга веку» ў гэтым горадзе. «Асенні ліст» з Бельска з вялікім анагажаваннем паказаў даўні абрад «Багач», пра які не чулі нават найстарэйшыя ўдзельнікі прэзентацый. Інфармацыі аб гэтым абрадзе Тамара Русачык знайшла сярод запісаў даўняга фальклору.

— «Багач» — старажытны беларускі абрад, прымеркаваны да галоўнага восеньскага свята — Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, да якой маліліся за ўдалую сяўбу і добры ўраджай. Зерне, сабранае са снапоў з зажынак, рассыпвалі па панадворках, што мела гарантаваць удалыя пасевы азімых культур і добры ўраджай. Пасля вяскоўцы збіраліся ў аднаго гаспадара і святкавалі, што мы і паказалі, — гаварыла Тамара Русачык.

— «Сваты» мы пакажам з выкарыстаннем дэталяў з-пад Гарадка, бо яны розніліся, залежна ад рэгіёна. Рашылася я выкарыстаць у сцэнарыі абраду таксама матывы з майго асабістага сватання, — заявіла кіраўнік «Асенняга ліста» з Гарадка Галена Бура і дабавіла, што ў яе выпадку сватанне было толькі абрадавай фармальнасцю, бо добра ведала мужа, яшчэ з пачатковай школы.

Вельмі ўдала выступілі жанчыны з Дабрывады, якія пад кіраўніцтвам Валянціны Клімовіч паказалі «Апрацоўку лёну», з выкарыстаннем даўніх прылад працы.

— Каб дакладана паказаць, з чаго ў мінулым выконвалі палатно, мы прывезлі розныя прылады працы для апрацоўкі лёну: церніцу, трапачку, доску для трапання і *потес*. Маё пакаленне ўжо прала на калаўротках, але так да 1900 года пралі з выкарыстаннем *потеса*, які можа яшчэ нават захаваўся ў нейкай хаце. Аднак мы не маглі знайсці яго і я папрасіла зяця, каб, паводле майго вопісу, выканаў такі *потес* для прадзення, — расказала Ніна Яўдасюк з Дабрывады.

«Сваты» цікава прадставілі таксама «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага, падрыхтаваныя пад наглядам Ніны Бялецкай і Юліі Міранчук. З гумарам і па-акцёрску абрад «Вячоркі» запрэзентавалі «Крыніца» з Беластока (пад наглядам сакратара ГП БГКТ Валянціны Ласкевіч) і «Падляшанкі» з Гарадзіска (кіраўнік Анна Тэслюк). Багаты і падрыхтаваны з дэталямі абрад «Куцця» запрэзентавалі «Арляне» з Орлі — наш найстарэйшы беларускі калектыў. Гэты абрад увёў публіку ў перыяд посту і перадсвяточную атмасферу.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960